ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 44 (2570)
ПЯТНІЦА
29
кастрычніка 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

# БЕЛАРУСКАМУ УНІВЕРСІТЭТУ—50!



Заўтра ў Беларускага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна залаты юбілей. Гэта свята не толькі студэнтаў і выкладчыкаў універсітэта, гэта свята ўсёй Беларусі. Беларускі дзяржаўны універсітэт — гэта наша сённяшняя навука, наша культура.

Аб'ектыў фотаапарата занатаваў адно імгненне ў плённым і напружаным жыцці універсітэта.

Глядзіш на засяроджаныя твары юнакоў і дзяўчат, і ўспамінаюцца словы Генеральнага сакратара ЦК КПСС Леаніда Ільіча Брэжнева з яго прамовы на першым Усесаюзным злёце студэнтаў: «Наша савецкае студэнцтва — гэта плоць ад плоці, кроў ад крыві рабочых, сялян, працоўнай інтэлігенцыі — адным словам, тых, хто сваёй працай робіць магчымым далучэнне моладзі да вышынь ведаў».

...Неўзабаве яны выйдуць на шырокі прасцяг жыцця. І дзе б ні выпала ім працаваць — у школе ці заводскай лабараторыі, у навукова-даследчым інстытуце ці геалагічнай партыі, — яны падтрымаюць гонар сваёй альма-матэр, апраўдаюць клопаты Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада.

Матэрыялы, прысвечаныя 50-годдзю універсітэта, чытайце на стар. 4, 5, 6, 7.

Фота М. МІНКОВІЧА.

# НЯХАЙ ЖЫВЕ САВЕЦКАЯ НАРОДНАЯ ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ—АКТЫЎНЫ БУДАЎНІК КАМУНІСТЫЧНАГА ГРАМАДСТВА!

З ЗАКЛІКАЎ ЦК КПСС ДА 54-й ГАДАВІНЫ ВЯЛІКАЙ КАСТРЫЧНІЦКАЯ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ РЭВАЛЮЦЫІ.

**ад пятніцы да пятніцы**

## МАЦНЕЦЬ НАШАЙ ДРУЖБЕ



Сустрэча Л. І. Брэжнева і Ж. Пампіду.

Кожнаму з нас з дзяцінства блізкія словы — Французская рэвалюцыя, Парыжская камуна... Нам дарагія імёны Вальтэра і Русо, Бальзака і Гюго, Сары Бернар і Жоржа Бізэ.

Францыя, французскі народ — таленавіты, працавіты і храбры. Мы былі разам у дні самых цяжкіх выпрабаванняў, калі на нашы краіны насунуўся чорны цень фашысцкага бота. Радасна ўсведамляць, што ў нас добрыя, шчырыя адносіны зараз, сёння.

Вось чаму з такім захапленнем сочым мы за візітам Генеральнага сакратара ЦК КПСС Леаніда Ільіча Брэжнева ў Францыю. Мільёны і мільёны савецкіх людзей садзяцца ля тэлевізараў, каб убачыць, як горача сустракае Францыя савецкіх пасланцаў.

Са свайго асабістага вопыту ведаю, як дружалюбна настроены французы да савецкіх людзей. З групай дзеячоў культуры і мастацтва Беларусі мне давялося пабываць у Францыі, у яе цудоўнай сталіцы Парыжы, іншых гарадах. І дзе б мы ні былі, нас сустракалі прыязныя ўсмешкі, дружалюбнасць. Нам гаварылі, што французы заўсёды ўдзячныя Савецкай краіне за тое, што яна вызваліла Еўропу ад фашысцкай навалы.

Было вельмі прыемна даведацца, што ў Францыі добра ведаюць і любяць мастацтва, літаратуру нашай краіны. Што тут блізкія імёны Пушкіна і Тургенева, Талстога і Дастаеўскага, што ў Францыі вельмі папулярная музыка Чайкоўскага і Шастаковіча, што калі сюды прыязджаюць савецкі балет, савецкія музыканты—у чаргу за білетамі выстрайваюцца задоўга да канцэртаў.

Так, мы добра дружым, мы ў многім — разам.

«Савецкі Саюз і Францыя звязаны шматлікімі ніцямі кантактаў, абменаў і супрацоўніцтва ў сферы эканомікі, навукі, тэхнікі і культуры,—сказаў у сваёй прамове ў Версалі Л. І. Брэжнеў.—Шырацца дружалюбныя зносіны паміж Савецкім Саюзам і Францыяй».

Наша краіна — прызнаны ва ўсім свеце сцяганосец міру і свабоды. І вельмі добра, вельмі радасна, што ў нас столькі сяброў і што сярод гэтых сяброў Францыя—адна з вялікіх дзяржаў.

А калі сябруюць паміж сабой такія дзяржавы, ворагам міру нялёгка здзейсніць свае чорныя задумы.

Няхай і надалей мацнее дружба паміж нашымі народамі.

Я. ПАЛОСІН,
народны артыст СССР.

## ВЕРНАСЦЬ ПРАЎДЗЕ

*ТВОРЧЫ ВЕЧАР ВАСІЛЯ БЫКАВА*

Творчасць Васіля Быкава — вельмі значная, змястоўная і цікавая з'ява ў нашай літаратуры. Пісьменнік піша аб Вялікай Айчыннай, аб яе суровых выпрабаваннях, аб людзях, якія штодзённа знаходзіліся на лініі агню і ледзь не штодзённа глядзелі ў твар смерці. З вялікай увагай і глыбокай пранікнёнасцю асэнсоўвае ён у сваіх творах жыццёвую праўду вайны як праўду мастацкую. Спасцігаючы вопыт і ўрокі вайны, Васіль Быкаў з асаблівай настойлівасцю высвятляе гуманістычную сутнасць узаемадачыненняў і паводзін людзей у тых драматычных абставінах, калі ў змаганні за Радзіму ім даводзілася плаціць самай высокай цаной.

Вось чаму творчы вечар Васіля Быкава, які адбыўся 27 кастрычніка ў клубе Саюза пісьменнікаў БССР, сабраў мнагалюдную аўдыторыю.

Сустрэча з пісьменнікам атрымалася цікавай і змястоўнай. Размову з Васілём Быкавым вялі Вера Палтаран і Уладзімір Юрэвіч, і гэта размова была задушэўнай, шчырай. Яна была насычана глыбокімі разважаннямі аб жыцці і творчасці, аб літаратурным майстэрстве, аб мастацкіх пошуках, аб значэнні біяграфічнага вопыту для творчасці пісьменніка, аб тых унутраных стымулах, што прыводзяць да нараджэння твора, аб узаемасувязях праўды жыцця з мастацкай праўдай.

Крытык Уладзімір Юрэвіч, які выступіў са словам пра творчасць пісьменніка, акрэсліў яго шлях у літаратуру, падзяліўся думкамі пра творы, што з'явіліся найбольш значнымі вехамі ў творчасці Васіля Быкава. Адначасова, накіроўваючы размову, крытык ставіў пытанні, якія вялі ў свет пісьменніка, у яго творчую лабараторыю, закраналі істотныя праблемы ідэйна-мастацкага светапогляду.

Пісьменнік, даючы адказы, расказаў, як ён пачынаў свой шлях у літаратуру, з удзячнасцю назваў імёны літаратараў, што дапамаглі яму на пачатку дарогі падтрымкай і парадамі, прыгадаў, як узнікла ў яго жаданне пісаць, выявіць свой вопыт і сваё веданне, разуменне вайны ў мастацкіх вобразах. Расказаў Васіль Быкаў і аб творчых цяжкасцях, якія давялося адольваць пры напісанні асобных твораў.

Ён згадаў некаторыя жыццёвыя факты і эпізоды, што былі выкарыстаны ім у аповесцях «Трэцяя ракета», «Здрада», «Альпійская балада». У час размовы гаварылася і аб многім іншым: аб формах сцвярджэння ідэалу ў мастацтве, аб сувязі паміж прататыпам і літаратурным вобразам, аб ролі мастацкага вымыслу ў творах, аб шляхах і спосабах мастацкага сінтэзу сучаснасці і падзей мінулага і г. д. Ішла размова і аб мастацкіх пралiках, асобных няўдачах пісьменніка (і трэба адзначыць, тон задаваў ён сам, строга, самакрытычна ацэньваючы сваю працу).

Усхвалявана выступіў на вечары генерал-маёр у адстаўцы, пісьменнік Мікалай Аляксееў, які падзяліўся сваімі ўражаннямі ад твораў Васіля Быкава.

Адказваючы на пытанні прысутных — сваіх зацікаўленых чытачоў — Васіль Быкаў расказаў таксама і аб сваёй працы для кіно і тэатра, аб творчых планах.

## В. ПРЫШЧАПЁНАК—ЗАСЛУЖАНЫ АРТЫСТ БССР



За заслугі ў развіцці музычнага мастацтва Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР прысвоіў салісту хору Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў Беларускай ССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні Валерыю Георгіевічу Прышчапёнку ганаровае званне заслужанага артыста Беларускай ССР.

●

**Прышчапёнак Валерый Георгіевіч нарадзіўся ў 1921 годзе ў Омску. Пасля заканчэння музычнага вучылішча ў Стаўрапалі быў запрошаны ў ансамбль песні і танца ЧБВА. У 1955 годзе скончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю і стаў салістам хору Беларускага радыё.**

**В. Прышчапёнак адзін з першых выканаўцаў большасці вакальных твораў беларускай музыкі.**

**Актыўны прапагандыст беларускай песні, В. Прышчапёнак часты госць у калгаснікаў, рабочых, у воінаў Савецкай Арміі. За поспехі ў выканаўчым майстэрстве ўзнагроджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.**

## ВІНШУЕМ З УЗНАГАРОДАЙ!

*За плённую работу ў галіне беларускай савецкай літаратуры і ў сувязі з шасцідзесяцігоддзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў пісьменніка Лобана Мікалая Паўлавіча Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.*

□

*За заслугі ў развіцці беларускага савецкага тэатральнага мастацтва і ў сувязі з сямідзесяцігоддзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў народную артыстку Беларускай ССР, актрысу Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Я. Коласа Глебаўскую Яніну Казіміраўну Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.*

## АДРАС ТВОРЧАЙ ПАЕЗДКІ—ТРАКТАРНЫ



Намеснік галоўнага тэхнолага завода Юрый Паўлавіч Носік знаёміць пісьменнікаў з вытворчасцю.

Днямі вялікая група беларускіх пісьменнікаў наведала Мінскі ардэнаносны трактарны завод. Адбылася цікавая сустрэча з калектывам прадпрыемства. Галоўны інжынер Пётр Іванавіч Байкоў расказаў гасцям пра гісторыю завода — як нарошчвалася яго магутнасць, як на базе калёснага ўніверсальнага прапашнога трактара МТЗ-50 стваралася цэлая сям'я трактараў рознага прызначэння. Карысная гутарка зацягнулася надоўга.

Затым пісьменнікі Янка Скрыган, Піліп Пестрак, Павел Кавалёў, Анатоль Грачанікаў, Мікола Ткачоў, Мікола Гарулёў, Браніслаў Спрынчан, Мікалай Аляксееў, Ядзвіга Бяганская, Эдзі Агняцвет, Аркадзь Маўзон, Павел Місько і іншыя пабывалі ў цэхах завода, пазнаёміліся з вытворчасцю, з лепшымі людзьмі прадпрыемства.

# На канве выдуманых канфліктаў

В. КРУТАЛЕВІЧ

## КАЛІ ЗДРАДЖВАЕ ПАЧУЦЦЁ МЕРЫ

НАРАДЖЭННЕ любой савецкай нацыянальнай рэспублікі цесна звязана з праблемай дзяржаўных узаемаадносін з РСФСР. Федэратыўныя адносіны — арганічная частка нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва. Таму зусім зразумела імкненне рэакцыйных заходніх сацыёлагаў дыскрэдытаваць савецкі федэралізм як форму супрацоўніцтва нацый, прыпісаць рускім камуністам нейкія асобыя намеры, якія нічога агульнага не маюць з інтарэсамі нацый. Менавіта ў паказе савецкай федэрацыі саветолагам перш за ўсё і часцей за ўсё здраджвае пачуццё меры.

Саветолагі вынаходзяць «супярэчнасці» ў марксісцка-ленінскай тэорыі нацыянальнага пытання, даказваюць несумяшчальнасць права нацый на самавызначэнне з інтарэсамі пралетарыяту і г. д. Для заходніх тэарэтыкаў, якія гавораць аб вечнасці нацый, права нацый на самавызначэнне прадстаўляецца несумяшчальным з інтэрнацыянальнымі задачамі сацыялізма. Уключэнне права нацый на самавызначэнне ў партыйную праграму было нібыта вымушанай уступкай бальшавікоў нацыяналізму.

Буржуазныя юрысты і гісторыкі звычайна агаворваюцца, што ў Савецкім Саюзе нельга шукаць федэралізму «заходне-еўрапейскага ўзору». Гэта, вядома, правільна. Савецкая і буржуазная федэрацыі — розныя па сваёй прыродзе, сацыяльнай сутнасці і па сваіх мэтах — розныя дзяржаўна-прававыя формы. Але з гэтага тэзісу робіцца зусім нечаканы, але зусім зразумелы і лагічны для буржуазнага светапогляду вывад, што сапраўдная федэрацыя—гэта заходняя, а савецкая нібыта «ад нячыстага». Спрабуюць даказваць, што савецкая федэрацыя не звязана з інтарэсамі нацый і г. д. Англійскі прафесар А. Кейт прызнае, напрыклад, два тыпы федэрацыі. Да першага тыпу ён адносіць ЗША, Швейцарыю, Канаду, Аўстралію. Гэты тып федэрацыі, на яго думку, узнік як вынік аб'яднання незалежных дзяржаўных адзінак. Другі тып федэрацыі (да яго ён адносіць СССР) — вынік раздзялення вельмі вялікіх раёнаў для эфектыўнага адміністравання. Савецкі Саюз па волі гэтага тэарэтыка трапляе ў адну групу з Аргенцінай, Мексікай, Бразіліяй і Венесуэлай. Але прафесар кожны раз упадае ў супярэчнасць са сваёй прадузятай схемай, калі разглядае ўжо асобныя аспекты савецкага федэралізму, суверэнныя правы саюзных рэспублік, факты канкрэтнай савецкай рэчаіснасці.

Савецкая ўлада ў нацыянальных раёнах нарадзілася і мацнела ў жорсткай барацьбе з нацыяналістычнай контррэвалюцыяй, якая абапіралася на знешнія сілы. І гэтым самым яна паказвала сваю жыццяздольнасць, трываласць і стойкасць. Вядома, што прапанова аб абвяшчэнні БССР менавіта ў форме суверэннай рэспублікі зыходзіла ад У. І. Леніна, ЦК партыі. Абвясціўшы незалежную рэспубліку, беларускія працоўныя на Першым Усебеларускім з'ездзе Саветаў у лютым 1919 г. паставілі пытанне аб устанаўленні дзяржаўнага саюзу з РСФСР.

Заканчэнне. Пачатак гл. у мінулым нумары.

Паводле сцвярджэння гісторыка з ФРГ О. Баўмхаўэра, бальшавікі былі ворагамі нацыянальнай незалежнасці раней прыгнечаных народаў Расіі і ўсяляк процідзейнічалі гэтай незалежнасці.

Буржуазныя меркі ў нацыянальным пытанні пераносяцца на савецкую рэчаіснасць. Барацьба працоўных нацыянальных раёнаў у саюзе з рускімі працоўнымі пад кіраўніцтвам бальшавікоў супраць мясцовай буржуазіі і памешчыкаў падаецца саветолагамі як канфлікт паміж нацыянальным рухам на ўскраінах і рускімі бальшавікамі-цэнтралістамі. На самай справе ў кожным нацыянальным раёне ішла барацьба паміж рэвалюцыйнымі і контррэвалюцыйнымі сіламі. Свае эгаістычныя класавыя інтарэсы буржуазія і памешчыкі выдавалі за агульнанацыянальныя. У барацьбе за Савецкую ўладу, супраць мясцовых прыгнятальнікаў працоўныя нацыянальных ускраін сустракалі падтрымку рускага народа. І ў той жа час рускія рабочыя і сяляне ў барацьбе за дыктатуру пралетарыяту абапіраліся на дапамогу рэвалюцыйных сіл Украіны, Беларусі, Каўказа і іншых нацыянальных раёнаў.

Аўтар нарысаў адмаўляе наяўнасць унутраных фактараў (эканамічных, палітычных, гістарычных), якія згуртоўвалі народы Расіі і прывялі да стварэння адзінай саюзнай дзяржавы. «Адзінства,— піша О. Баўмхаўэр, — трымалася і дасягалася з дапамогай адпаведнай структуры РКП (б), якая прадугледжвала падначаленне Цэнтральнаму Камітэту партыйных арганізацый нацыянальных рэспублік». Тут ён указвае і на пасылку ў нацыянальныя раёны рускіх для работы ў партыйным і дзяржаўным апараце.

На думку гэтага гісторыка, падабенства канстытуцый нацыянальных рэспублік — вынік дыктату Масквы. На справе ж падабенства канстытуцый было вынікам адзінства ладу і мэт, натуральнага імкнення савецкіх рэспублік пераняць вопыт сацыялістычнага будаўніцтва ў РСФСР.

Англійскі публіцыст, журналіст і радыёкаментатар Вальтэр Коларз, аўтар раду тэндэнцыйных кніг пра Савецкі Саюз, сутнасць нацыянальнай палітыкі Камуністычнай партыі звязваў з так званым савецкім каланіялізмам. Дарэчы, тэрміны «савецкі каланіялізм», «савецкая імперыя», вельмі папулярныя ў саветолагаў, ужо самі па сабе характарызуюць іх погляды на савецкі федэралізм.

В. Коларз жангліруе фактамі гісторыі, адвольна вырванымі з іх натуральных сувязей. Бадай, найбольш поўна «канцэпцыя» англійскага публіцыста знайшла сваё адлюстраванне ў зборніку артыкулаў «Камунізм і каланіялізм», які выйшаў у 1964 годзе пасля смерці аўтара з прадмовай Эдварда Крэнкшоў.

Каланіялізм В. Коларз бачыць у з'явах, якія на справе характарызуюць збліжэнне савецкіх нацый у працэсе будаўніцтва камунізма і якія ўтвараюць новую сацыяльную супольнасць — савецкі народ.

Стварэнне нацыянальных рэспублік— гэта таксама, аказваецца, ажыццяўленне метаду «савецкага каланіялізму». Праяўленне праславутага савецкага каланіялізму В. Коларз бачыць нават у тым, што вуліцы ў сталіцах саюзных рэспублік носяць назвы выдатных рэвалюцыйных і іншых дзеячоў Расіі. Ён хлусіць, што саюзныя рэспублікі адстаюць у культурным развіцці.

Варта прывесці толькі лічбы аб узроўні адукацыі ў саюзных рэспубліках, каб паказаць усю недарэчнасць сцвярджэння В. Коларза. Паводле апошняга перапісу на 1.000 занятых ва Узбекістане і Туркменістане, у гэтых тыповых, па яго разважаннях, «савецкіх калоніях», асоб з вышэйшай і сярэдняй адукацыяй больш, чым у «метраполіі» г. зн. у РСФСР.

Для ўсіх заходніх рэакцыйных гісторыкаў і сацыёлагаў, якія пішуць па нацыянальным пытанні, нягледзячы на разнастайнасць падыходу, філасофскіх поглядаў, палітычных густаў і жыццёвага вопыту, характэрны некаторыя агульныя рысы. Саветолагі адмаўляюць аб'ектыўную заканамернасць савецкай федэрацыі, заканамернасць, якая выцякае з самой прыроды сацыялістычнага ладу.

## ПАД ТЫМ ЖА СЦЯГАМ

АДПРАЎНЫЯ ідэі сучасных саветолагаў, бадай, не выдумка навейшага часу. Іх сфармулявалі нашы класавыя ворагі яшчэ ў першыя гады рэвалюцыі, іх усяляк прапагандавалі белаэмігранты. Сучасныя саветолагі шырока чэрпаюць ідэі са «скарбніцы» гэтых сваіх папярэднікаў, якія калісьці выступалі супраць Кастрычніцкай рэвалюцыі, дыктатуры пралетарыяту. І самі ідэі, і прыёмы скажэння гістарычнай рэчаіснасці ў многім блізкія таму, што назіралася ў першыя гады пасля Кастрычніка. Таму сучаснаму чытачу будуць цікавыя некаторыя штрыхі прапагандысцкіх метадаў беларускіх нацыяналістычных дзеячоў, якія не спыняліся перад самым нізкапробным паклёпам.

У літаратуры нацыяналістаў можна было сустрэць сцвярджэнне, напрыклад, аб тым, што Часовы ўрад Беларусі на чале з З. Жылуновічам быў «звергнуты маскоўцамі», таму што ім, маўляў, не спадабаліся беларускія бальшавікі.

Гэты народжаны класавай злосцю паклёп вельмі блізкі да таго, што піша аб стварэнні БССР Н. Вакар у сваёй кнізе «Беларусь. Станаўленне нацыі».

Як вядома, ніхто не «звяргаў» беларускі савецкі ўрад. У пачатку лютага 1919 г. адбыўся Першы Усебеларускі з'езд Саветаў, які прыняў Канстытуцыю рэспублікі. У адпаведнасці з канстытуцыяй і былі пераўтвораны цэнтральныя рэспубліканскія органы. Рэарганізацыя органаў і персанальныя перамяшчэнні асоб былі ўнутранай справай рэспублікі і ажыццяўляліся, як відаць з дакументаў, па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам Цэнтральнага Бюро КП (б) Б.

Публікацыі сучасных нацыяналістаў таксама наскрозь прасякнуты ідэямі антысаветызму. Узорам можа стаць выдадзеная ў 1968 годзе на англійскай мове пад грыфам Асацыяцыі беларусаў ў Вялікабрытаніі брашура «Абвяшчэнне незалежнасці Беларусі».

Брашура задумана як прапагандысцкі матэрыял да пяцідзесяцігадовага юбілею «абвяшчэння» БНР.

У ёй можна прачытаць, напрыклад, што 19 лютага 1918 г. савецкія войскі пакінулі Мінск пад націскам Беларускай нацыянальнай арміі. Як вядома, у беларускіх нацыяналістычных арганізацый не было не толькі арміі, але нават узвода салдат. З брашуры даведваемся таксама, што «ўрад» БНР, які, як вядома, не меў ніякай улады, нягледзячы на рабалепства перад нямецкімі акупантамі нібы захоўваў эфектыўны кантроль над значнай часткай Беларусі.

Фантазія аўтара брашуры сапраўды не ведае межаў. Ён заяўляе, што 5 студзеня 1919 года «камуністычны ўрад» замяніў сабой «урад» Рады.

Шырока вядомыя факты гавораць аб тым, што яшчэ ў пачатку снежня 1918 года арганізатары БНР, апынуўшыся ў становішчы генералаў без арміі, упакавалі чамаданы і ўцяклі ў Гродна пад заступніцтва нямецкіх войск.

Як ні парадаксальна, сучасныя беларускія нацыяналісты, не маючы архіўных крыніц, выступаюць пад сцягам барацьбітоў за гістарычную ісціну, выдаюць сябе за дэфальсіфікатараў гісторыі, якую, маўляў, наўмысна скажаюць савецкія аўтары. Я. Станкевіч напісаў нават кнігу пад назвай «Савецкае фальшаванне гісторыі Беларусі. Доследы і матэрыялы» (Мюнхен, 1956 г). Ужо адна назва гаворыць аб прэтэнзіях гэтага «даследчыка».

Друкарская прадукцыя, якую плодзяць перабежчыкі і здраднікі Радзімы, не мае

(Заканчэнне на стар. 14—15).

# АД РОДНЫХ НІЎ І ПАЛЕТКАЎ

*РЭСПУБЛІКАНСКІ ТЭЛЕФЕСТЫВАЛЬ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ. КАНЦЭРТ МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ*

НА СЦЭНЕ Палаца культуры камвольнага камбіната больш за трыццаць спевакоў унікальнага ў рэспубліцы мужчынскага хору вёскі Лань Нясвіжскага раёна. Старэйшы ў рэспубліцы калектыў аматараў харавога спявання неўзабаве адзначыць сваё саракагоддзе.

Звычайна да песень больш ахвочыя жанчыны. У Лані ж песняй захапляюцца мужчыны і праносяць яе праз усё сваё жыццё. Збяруцца на рэпетыцыю спевакі і, здаецца, сцены сельскага клуба не вытрымаюць напору магутных басоў, звонкіх тэнараў, аксамітна-мілагучных барытонаў. Паслухаць рэпетыцыі хору часта збіраецца ледзь не ўся вёска. Цікава ж прысутнічаць пры нараджэнні вялікага цуда — новай песні. А чараўнік гэты — вясковы настаўнік Уладзімір Адамавіч Пешкур. Каля дзесяці гадоў ён трымае ў сваіх чуйных руках самабытны калектыў і вучыць, вучыць, вучыць, адкрываючы перад спевакамі, такімі ж, як і сам, аматарамі песні таямніцы харaства...



Салістка народнага этнаграфічнага ансамбля «Лявоніха» саўгаса «Сцяг Кастрычніка» Бярэзінскага раёна Н. Халецкая (злева) і Міхась Пацук — удзельнік мастацкай самадзейнасці Дзяржынскага раённага дома культуры.

У гэтыя дні калектыў акрылены, узрадаваны. Хору прысвоена ганаровае званне народнага. І даводзіцца шкадаваць, што ў такім адказным канцэрце, які Мінская студыя тэлебачання перадавала на рэспубліку, хор праспяваў толькі адну песню «Ой, сівы конь бяжыць».

Можна гаварыць і яшчэ пра адну прыкметную з'яву ў развіцці самадзейнага мастацтва Міншчыны — настойлівае імкненне займець некалькі мужчынскіх вакальных ансамбляў. У канцэрце, напрыклад, з поспехам выступіла вакальная мужчынская група Вілейскага гарадскога дома культуры, якой кіруе Міхаіл Мельнік. Спевакі-аматары выканалі песню Г. Вагнера «Крочылі салдаты». А нядаўна нарадзілася мужчынская вакальная група ў Мядзельскім раённым доме культуры. Няхай члены журы адзначылі іх выступленне меншай колькасцю балаў, але факт з'яўлення такога калектыву радуе.

Як заўжды, уразіла выступленне народнага этнаграфічнага ансамбля «Лявоніха» Бярэзінскага раёна (кіраўнік Генадзь Яфрэмаў). Умельства спяваць народную песню, гордая жаночая пастава, прыгожыя, маляўнічыя касцюмы пакідаюць незабыўнае ўражанне. Калектыў не толькі хавальнік і прапагандыст народнай песні. У ансамблі нарадзілася песня пра Леніна і Маскву, якую спявачкі пранікнёна выканалі ў канцэрце.

Парадавала выступленне ансамбля капыльскіх дудароў (кіраўнік Сяргей Рончык). У калектыў прыйшлі юныя музыканты, якія старанна вучацца іграць на дудачках. У іх выкананні прагучалі з маленства знаёмыя шчымлівыя народныя мелодыі. Добра вядомы на Міншчыне Чэрвеньскі ансамбль народных інструментаў. Народныя музыкі весела і задорна выканалі «Беларускую польку».

У канцэрце прынялі ўдзел два ансамблі песні і танца — народны Маладзечанскі і Барысаўскі і яшчэ вакальна-харэаграфічны ансамбль «Купалінка» Стаўбцоўскага раённага дома культуры. У маладзечанцаў багаты вопыт канцэртных выступленняў. Хор вызначаецца чысцінёй выканання, добрым гучаннем. Ансамбль праспяваў песню Іосіфа Сушко «Звездай мой край», выканаў танцавальную карцінку «Касіў Ясь канюшыну» і беларускі танец «Юрачка».

Упэўненыя крокі робіць ансамбль песні і танца Барысаўскага гарадскога дома культуры (мастацкі кіраўнік Аляксандр Ляляка). Нядаўна я была сведкай іх дэбюту — першага канцэрта. Выступленне ж па тэлебачанні засведчыла, што ансамбль творча расце і сталее, папоўніўся новымі здольнымі спевакамі і танцорамі.

Арыгінальным было выступленне івянецкіх танцораў. Кіраўнік калектыву, заслужаны дзеяч культуры рэспублікі Іосіф Ляшчынскі паставіў цікавы танец «Буслы». Добра глядзіцца яго кампазіцыя «Івянецкія сувеніры».

Нечаканы поспех выпаў на долю студэнта — удзельніка мастацкай самадзейнасці Дзяржынскага раённага дома культуры Міхаіла Пацука. У суправаджэнні Вячаслава Фралова ён хораша праспяваў жартоўныя народныя песні «Чачотачка» і «Субацея». Прыемна было слухаць салістку Салігорскага палаца культуры гарнякоў Валянціну Мішыну. У суправаджэнні інструментальнага ансамбля яна выканала песні А. Фельцмана «Балада» і Ю. Семянякі «Люблю цябе, Белая Русь».

Я. ДАНСКАЯ.

Беларускага дзяржаўнага універсітэта здзейсніла адвечную мару беларускага народа і 50-годдзе яго — сапраўднае свята ўсяго беларускага народа, свята першага ў Беларусі універсітэта як яркага ўвасаблення ў жыццё ленінскіх ідэй.

За гады свайго існавання Беларускі дзяржаўны універсітэт вырас неймаверна. Дзевяноста дактароў навук і прафесараў працуе ў ім сёння, чатырыста пятнаццаць кандыдатаў і дацэнтаў. У аспірантуры універсітэта каля чатырохсот аспірантаў. Цяпер толькі на адным філалагічным факультэце восем кафедр, трынаццаць дактароў навук, пяцьдзесят чатыры дацэнты і кандыдаты навук.

Сваімі лекцыямі ў памяці студэнтаў застаюцца прафесары М. Булахаў, М. Жыдовіч, А. Супрун, Л. Шакун, М. Ларчанка, Ф. Куляшоў, Л. Фіглоўская, І. Навуменка, А. Адамовіч, С. Александровіч і дацэнты В. Казлова, Л. Кароткая, Н. Гілевіч, П. Ткачоў, Дз. Бугаёў, Л. Бурак, В. Захарава, Б. Міцкевіч, М. Паўленка, У. Лазоўскі, В. Рагойша і інш.

Мы ганарымся сённяшнім універсітэтам. З поўным на тое правам ганарымся і яго гісторыяй — і блізкай, сведкамі якое былі, і больш далёкай.

І калі цяпер мне асабліва хочацца падкрэсліць сувязь нашага універсітэта з беларускай літаратурай, то, вядома, найперш таму, што маім жыццёвым лёсам стаў філфак, што гэта кроўная сувязь—перш за ўсё гонар гуманітарных факультэтаў.

Сёння сапраўды цяжка нават пералічыць тых, хто, закончыўшы універсітэт, сталі пісьменнікамі, паэтамі. Кузьма Чорны, Пятрусь Броўка, Кандрат Крапіва, Пятро Глебка, Максім Лужанін, Янка Скрыган, Алесь Пальчэўскі, Мікола Хведаровіч, Алесь Якімовіч, Алесь Звонак—з кагорты студэнтаў універсітэта 20-х—пачатку 30-х гадоў. Іван Мележ, Мікола Лобан, Вера Палтаран, Марына Барсток прыйшлі ва універсітэт у суровыя дні Вялікай Айчыннай вайны, калі ён часова размяшчаўся пад Масквой на станцыі Сходня. У другой палове 40-х гадоў яго скончылі А. Васілевіч, Р. Шкраба, Ул. Шахавец, Л. Арабей, І. Кудраўцаў. Асабліва шматлюднае папаўненне літаратуры даў універсітэт на працягу 50-х, 60-х гадоў. У гэты час тут вучыліся А. Адамовіч, І. Навуменка, Ул. Дамашэвіч, М. Ярош, Ул. Нядзведскі, Г. Кляўко, Н. Гілевіч, М. Арочка, К. Цвірка, А. Клышка, Ю. Свірка, Р. Барадулін, Г. Бураўкін, А. Вярцінскі, І. Пташнікаў, Б. Сачанка, І. Чыгрынаў, М. Стральцоў, Я. Сіпакоў, Ул. Паўлаў. Здаецца, зусім нядаўна вучыліся ў ім А. Кудравец, В. Вярба, М. Маляўка, В. Макарэвіч, М. Вышынскі, М. Капыловіч, Хв. Чэрня, М. Дукса, К. Камейша, а дыпломы артымалі ўжо і маладзейшыя за іх Р. Семашкевіч, Ю. Голуб, Ж. Янішчыц.

Яркая старонка гісторыі універсітэта—праца ў ім Якуба Коласа. Народны паэт чытаў курс беларускай мовы і методыку яе выкладання. Ён быў зацверджаны дацэнтам педфака БДУ 3 снежня 1923 года загадам Народнага камісарыята асветы БССР. Якуб Колас быў таксама першы старшыня Дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі па літаратуразнаўчых і лінгвістычных дысцыплінах. На філфаку ў 20-я гады працавалі адначасова такія выдатныя літаратурназнаўцы і крытыкі, як акадэмік І. Замоцін, прафесары Я. Барычэўскі, А. Вазнясенскі, М. Піятуховіч.

Беларускі дзяржаўны універсітэт слаўны людзьмі, якія звязалі з ім свой лёс, якіх ён выхаваў. І, у сваю чаргу, кожны, хто скончыў універсітэт, а такіх ужо набралася цэлая армія,—больш трыццаці тысяч чалавек—на ўсё жыццё захавае пяшчоту, любоў да сваёй альмаматэр.

чага епархіяльнага вучылішча, гімназіі Фальковіча, рэальнага вучылішча Хайкіна, фабрыкі «Вікторыя» і г. д.

Мабыць, пасля вызвалення Мінска ад фашысцкіх захопнікаў наш універсітэт з пункту гледжання матэрыяльнай базы быў яшчэ ў горшым становішчы. Ушчэнт былі разбураны 5 трохпавярховых універсітэцкіх будынкаў, якія былі ўзведзены ў 1928—1931 гадах.

Так што, можна смела гаварыць, што ўсё пачыналася спачатку. 1-га кастрычніка 1944 года, калі універсітэт аднавіў сваю работу ў Мінску, колькасць студэнтаў складала 279 чалавек, а штат навуковых супрацоўнікаў—40 чалавек.

А вось некалькі фактаў з сённяшняга дня Беларускага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (імя У. І. Леніна было прысвоена універсітэту 3 снежня 1948 года, а ордэнам ён быў узнагароджаны 7 студзеня 1967 года).

Зараз універсітэт—буйнейшы навуковы цэнтр краіны. На чатырнаццаці яго факультэтах займаецца каля 18 тысяч студэнтаў і аспірантаў. Яшчэ 8 тысяч чалавек вучыцца на вячэрнім і завочным аддзяленнях. На 88 кафедрах самых розных профіляў працуе некалькі сот навуковых работнікаў, сярод іх вучоныя з сусветным імем.

**Л. ВЕРАШЧАГІНА,**
навуковы супрацоўнік Цэнтральнага дзяржаўнага архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі БССР.

# ЮБІЛЯРА ВІТАЮЦЬ

## Ф. ФЁДАРАЎ,

**акадэмік-сакратар аддзялення фізіка-матэматычных навук АН БССР, заслужаны дзеяч навукі БССР.**



— Ніколі не забуду трапяткога пачуцця пяўпэўненасці, з якім я ў 1928 годзе пераступіў парог універсітэта. У маіх вачах слова студэнт было сімвалам нечага ўзвышанага, недасягальнага. Ад універсітэта я імкнуўся ўзяць максімум ведаў. Замест адной замежнай мовы па праграме я вывучаў тры, наведваў курс лекцый іншых факультэтаў. Незабыўныя гады студэнцтва вызначылі мой далейшы лёс вучонага.

У дзень слаўнага юбілею жадаю універсітэту далейшых поспехаў.

## Янка СКРЫГАН



— Люблю хадзіць ля высокага новага гмаха—галоўнага корпуса Беларускага дзяржаўнага універсітэта, прыслухоўвацца да вясёлай гаманы моладзі. Недзе ў тым жа месцы некалі стаяў галоўны корпус БДУ, дзе ў мае студэнцкія гады мясцілася і наша літаратурнае аддзяленне педфака.

У той час ва універсітэце мы былі як вольныя слухачы — на лекцыі лепшых выкладчыкаў хадзілі, на лекцыі горшых—не, займаліся самастойна. Гэта давала магчымасць выбраць часіну і для літаратурнай работы. Універсітэт тады не меў добраўпарадкаваных сучасных інтэрнатаў. Жылі мы на прыватных кватэрах. Стыпендыя была не ва ўсіх і невялікая. Даводзілася папаўняць свой бюджэт пабочнай работай.

Што найбольш запомнілася? Гады навучання ва універсітэце прайшлі вельмі скора, бо перасыпаны яны былі для мяне значнымі падзеямі. Быў членам рэдкалегіі газеты «Кузня асветы», якая гуртавала вакол сябе людзей, што любілі літаратуру. Будучы студэнтам, здаў у Дзяржаўнае выдавецтва першую кнігу «Затока ў бурах». Ездзіў з брыгадай партыйных работнікаў на Магілёўшчыну па калектывізацыі. З гэтае камандзіроўкі напісалася кніга нарысаў «Шугае сонца». З брыгадай «Звязды» быў на «Гомсельмашы», з чаго нарадзілася кніга «Недапісаны профіль». Разам з Платонам Галавачом, Васілём Кавалём і Цодзікам Даўгапольскім арганізоўвалі матэрыял па гісторыі Магілёўскай фабрыкі шоўку. Кніга гэта называлася «На Цушоўскай пустэчы».

Уласна кажучы, універсітэт сфарміраваў з мяне і чалавека і пісьменніка.

## Д. ГОЛУБ,

**акадэмік АН БССР**



— Прайшло 50 гадоў з таго часу, як я ўпершыню ўвайшоў у аўдыторыю медфака Беларускага універсітэта і праслухаў першую лекцыю па анатоміі. Уражанне было такое моцнае, што пакінула след на ўсё жыццё і, відаць, вызначыла мае далейшыя інтарэсы. Заўсёды з радасцю і цеплынёй успамінаю вучобу і работу ва універсітэце. Кантакты з вучонымі розных спецыяльнасцей, даклады на розныя тэмы, дыскусіі па жыватворчых пытаннях навукі пашыралі кругагляд, стымулявалі імкненне да самастойнай навуковай работы. У памяці назаўсёды захаваліся дарагія сэрцу настаўнікі — прафесары Кроль, Мялкіх, Цітоў і многія іншыя вядомыя вучоныя.

# ДА «ЎЗЛЁТУ»

цам пасяг: залацісты пад клёнамі россып Беларусі збіраю ў пасаг».

Знешне стрыманы і сур'ёзны Кандрат Атраховіч (Крапіва) гучна смяецца з розных дыпламаваных бараноў, весела заводзіць «Камсамольскія прыпеўкі»: «Нас не любяць, нас баяцца поп кудлаты і кулак, бо рашыў за працу ўзяцца камсамольскі маладняк».

Гэта — тады, на пачатку. Потым была Вялікая Айчынная. Пасля вайны — той жа гарт, запал, тыя ж задушэўнасць і шчырасць, толькі аплодненыя ўжо новым душэўным вопытам.

«...Такія, мусіць, косці ў нас—нам у пуху не спіцца, такія, мусіць, ногі ў нас — нідзе ім не сядзіцца, такія, мусіць, рукі ў нас — ніяк ім не стаміцца... Такія сэрцы ў нас...» — вось штрыхі да партрэта пакалення студэнтаў-камсамольцаў пасляваеннага часу, накрэсленыя Кастусём Цвіркам.

Адкрыты, востра-публіцыстычны Генадзь Бураўкін вызначае галоўнае, стрыжнёвае ў сябе і сваіх сяброў: «Я з твайго неспакойнага племені, Партыя, хоць ля сэрца білет твой яшчэ не нашу. Гэта ты разам з маці дала мне ўпартую і няўрымслівую душу».

Рыгор Барадулін (творчасць яго — адна з самых яркіх старонак у гісторыі універсітэцкай паэзіі), мабыць, невыпадкова згадвае Паўлюка Труса: «...кашулю вышывала рупна Чарнаброўка ў інтэрнаце вечарамі. І, як сонца, ёй заходзіла на рукі галава паэта кучаравая...» («Кашуля Паўлюка Труса»).

Рыгор Семашкевіч, прадстаўнік пазнейшай генерацыі універсітэцкіх паэтаў, дакладна адзначае факты біяграфіі сваёй, а разам з тым і тых, хто нарадзіўся «ў год Перамогі і выбуху першага атамнага»: «Нарадзіўся ў сорак пятым. Беларус. Ахрысціла вайна. Гадавала маці. Жыве вайна. Жыве і маці. Вайны не бачыў. А чуў, што туляецца па завуголлях».

Так, і даваеннае, і пасляваеннае пакаленні універсітэцкіх паэтаў сказалі сваё важкае слова і пра час, і пра сябе ў гэтым часе. Складальнік «Універсітэта паэтычнага» прафесар кафедры беларускай літаратуры універсітэта Алег Лойка ўдала вызначыў унутраную тэму анталогіі. Аднак ёсць у ёй яшчэ, прынамсі, дзве «тэмы». Адна з іх звязана з асобай Якуба Коласа. Зваротам народнага песняра Беларусі «Сябрам-студэнтам», з якім ён выступіў перад студэнтамі Белдзяржуніверсітэта ў 1952 годзе, у дзень свайго сямідзесяцігоддзя, адкрываецца кніга. Якуб Колас калісьці выкладаў ва універсітэце методыку роднай мовы. Справа, слова яго жывуць у БДУ і зараз. Коласаўская тэма ў кніжцы ўвасоблена ў вершах «Бывай, наш паэце» Івана Навуменкі, «Зямля мая» Алеся Камароўскага і інш. Нарэшце, у гэтай кнізе багата старонак прысвечана студэнцкаму жыццю, цудоўнай і незабыўнай пары маладосці. Пра Белпедтэхнікум піша А. Якімовіч («Белпедтэхнікум»), працэс разумення таямніц навукі паказвае С. Дарожны («За вучобай»). Студэнтам фізмата БДУ прысвячае свой верш «Пасляваенны студэнт» выпускнік фізіка-матэматычнага факультэта У. Шахавец. «Оду завочніку» складае А. Лойка, «Гвардзейца навукі» ўслаўляе У. Нядзведскі. Аўтар вядомай кнігі «Універсітэцкі гарадок» М. Аўрамчык увайшоў у анталогію двума вершамі непасрэдна універсітэцкай тэматыкі — «Універсітэцкі гарадок» і «...Відаць, прарэктар быў паэтам». Умела падабраны творы пра студэнцкі быт, адпачынак (вершы «Пасылка» і «Вяселле ў інтэрнаце» Н. Гілевіча, «Дзень добры, інтэрнат!» Р. Барадуліна, «Студэнцкі чамадан» В. Зуёнка, «Хай жа ўсе студэнты...» М. Маляўкі і інш.). Некаторыя творы, што змешчаны ў кнізе, прысвечаны вучоным універсітэта, выкладчыкам і студэнтам. Трэба сказаць, аднак, што гэтая, універсітэцкая, тэма — не вузка лакальная. Усе паэты, як правіла, выходзяць за межы прыватных фактаў, у свет агульназразумелага і агульнацікавага, шырокіх мастацкіх абагульненняў.

Анталогія «Універсітэт паэтычны» цікавая яшчэ з аднаго боку. У ёй змешчаны і вершы літаратараў, якія з поспехам выступалі і выступаюць не ў паэзіі, а ў іншых літаратурных жанрах. Мы знаходзім у зборніку творы вядомых сёння празаікаў і крытыкаў, літаратуразнаўцаў і вучоных — К. Чорнага, П. Бузука, А. Вечара, М. Ларчанкі, Г. Базыленкі, І. Пташнікава, І. Чыгрынава, А. Ліса, В. Адамчыка і інш. Дармо, што большасць з іх аддала даніну паэтычнаму слову толькі на пачатку свайго творчага шляху. Важна, што гэты пачатак быў звязаны з БДУ, што паэзія ў нечым памагла і прозе, і крытыцы. На жаль, чамусьці не трапілі ў анталогію пасобныя літаратары — выпускнікі універсітэта, якія выступалі з вершамі і ў студэнцкія часы, і пазней (М. Барсток, В. Чамярыцкі, І. Хадановіч). У сцісла і ўвогуле добра складзеных бібліяграфічных даведках часам трапляюцца недакладнасці.

«Універсітэт паэтычны» завяршаецца падборкай вершаў членаў універсітэцкага літаратурнага аб'яднання «Узлёт», якое мае на сваім рахунку два паэтычныя зборнікі — «Узлёт» (1965) і «Натхненне» (1967). Гэтая анталогія, такім чынам, становіцца, апрача ўсяго, своеасаблівай узлётнай паласой для новага паэтычнага выраю.

Вось ужо цэлае паўстагоддзе ў ручаіну беларускай паэзіі ўліваецца чысты струмень творчасці літаратараў Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Ліцца табе, не перасыхаць, гаючая крыніца!

**В. РАГОЙША,**
дацэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна.

## КРЫТЫКА. ДЗЕНЬ СЁННЯШНІ

В. МЫСЛІВЕЦ

# НАЙПЕРШЫ ЗАПАВЕТ

Гаварыць пра стан крытыкі трэба хоць бы таму, што людзі, як нярэдка было да гэтага і як паказала большасць выступленняў у дыскусіі, звужана, з пазіцый «абараняю бліжняга» глядзяць на самую матэрыю твора, створаную, вядома, па законах прыгажосці. А эстэтычнае пачуццё чалавека — вынік працяглага літаратурнага развіцця — часцей падмяняецца эстэцтвам.

Што датычыць крытыкаў, дык некаторыя нават спрабавалі ўзаконіць права на безадказныя адносіны пры ацэнцы мастацкіх твораў, прыдумалі смешнае: кожны з нас, маўляў, чалавек і не можа быць аб'ектыўным. **Можа і павінен,** усвядоміўшы аб'ектыўныя законы, быць такім! Чалавек, які бярэ на сябе адказнасць сказаць слова пра твор іншага чалавека, перш за ўсё сам павінен глыбока і шматгранна ўяўляць, чым жыве свет, што хвалюе грамадства, смялей выносіць свае пазнанні на суд чытача. І толькі на такім фоне меркаваць, наколькі аўтару ўдалося паказаць жыццё ў мастацкіх вобразах. Гэта, безумоўна, цяжка. Але пісьменніку будзе зразумела, за што яго хваляць ці крытыкуюць: за тыя нявырашаныя праблемы, якія ён і не меў намеру вырашаць — лічыў другараднымі, або сапраўды не справіўся з пастаўленымі задачамі.

Помніцца, А. Яскевіч у адным з артыкулаў «хваліў» апавяданне В. Адамчыка. Маўляў, яно так сюжэтна разгалінавана, што галіны тыя займаюць як не паўсвета. Але ж усякаму відушчаму ясна, што доўгую адствалу галіну дрэва ўтрымаць не можа. Как не абламалася, яе трэба падпіраць. Галіна ж з пладамі, бывае, і цераз падпоркі пераломліваецца. Крытык гэтага не ўлічыў. Сюжэтную неарганізаванасць хоць сабе і стократь лірычнага апавядання паднёс чытачу, як новы крок літаратуры ў навелістыцы. Дык знаёмая бібліятэкарка, якая прачытала апавяданне і артыкул, і кажа: абы што.

Крытык С. Андраюк у дыскусійным артыкуле піша наступнае: «Крытычны аналіз (калі яго можна лічыць аналізам), у якім уся ўвага скіравана толькі на жыццёвыя факты, у якім слаба адчуваюцца эстэтычныя крытэрыі, можа часам прыводзіць да нечаканых вынікаў. Тут заўсёды творы, напісаныя на сучасным матэрыяле, будуць выйграваць у параўнанні з творамі пра мінулае. А з'явы рознага мастацкага ўзроўню разглядаюцца як раўназначныя». Якую тут з'яву крытык адвяргае, якую прымае? Дзе, як кажуць, навуковае абгрунтаванне сваіх вывадаў? Хіба крытык, які лічыць сябе сур'ёзным чалавекам, можа спасылацца на нежыццёвыя факты? Даставерны ж факт у мастацкім творы —ніхто не аспрэчвае — з кожным днём пацясняе выдумку. Успомніце, як марыў Леў Талстой пра той час, калі можна будзе пісаць творы пра жывых, рэальных людзей... Чаму **«заўсёды»** творы на сучасным матэрыяле прайграюць творам пра мінулае? Нешта не чуў, каб хто гаварыў, што раманы Ул. Караткевіча, А. Чарнышэвіча, М. Лобана, І. Мележа, якія напісаны на даваенным матэрыяле, у нечым прайграюць раманам Я. Брыля, І. Шамякіна, А. Кулакоўскага, У. Карпава, Т. Хадкевіча, у якіх апавядаецца пра ваенны і наш час. Ну, і чэснае слова, проста не чытаў, каб крытыкі, скажам, Д. Бугаёў, Я. Герцовіч, В. Каваленка, І. Навуменка, Р. Шкраба ставілі калі знак роўнасці паміж творамі «рознага мастацкага ўзроўню».

Не бярэ бога за бараду С. Андраюк, калі сцвярджае, што хваляць нашы крытыкі толькі ўсё таленавітае. Значыць, не прызнаюць яны толькі неталенавітае... Такога аднадумства ў нашай крытыцы, здаецца, ніколі не было. Ды нават не ў гэтым справа. У той час, калі літаратура толькі набірае разгон, паставіць, як кажуць, на месца той ці іншы твор, таго ці іншага аўтара не ўяўляецца магчымасці. У гісторыі літаратуры ёсць безліч яскравых прыкладаў. Успомніце, як паламалі зубы інстытуты і акадэмія Францыі свайго часу на Бальзаку? Прыклады, калі некаторыя яго шэдэўры прызнавалі нямногія правінцыяльныя журналісты, павінны студзіць гарачыя галовы ад катэгарычных прысудаў!

Замінае ж, калі не больш, навукова-аб'ектыўнаму аналізу мастацкіх твораў сямейна-групавы падыход да з'яў літаратуры. Нярэдка сяброўскай штурханінай на п'едэстал славы ўзнімаюцца кнігі фальшывыя ў сваёй аснове, нязначныя па задуме і шэрыя па рэалізацыі аўтарскага намеру. І што прыкра — нават самі аўтары панегірыкаў, трапіўшы ў іншае асяроддзе і пастаўленыя перад фактамі, прызнаюцца, што і бачылі пралікі, але не маглі сказаць пра іх адкрыта: той — сябар, іншы чалавек — «перспектыўны», трэцяга хочацца прыласкаць... І атрымліваецца, што мы тут, у рэспубліцы, даўно і гучна гаворым пра асобныя творы як пра дасягненні сучаснай прозы. А яны, тым часам, паўтараюць зады іншых літаратур.

Мы шчыра давяраемся крытыкам, прымаем іх ацэнкі, як адзіна правільныя, усебакова абгрунтаваныя. Актыўна рэкамендуем творы чытачу. А ён, як упарты вол, адмахваецца ад іх. Так праходзяць гады, дзесяцігоддзі. Крытычная ж думка ні з месца. Маўляў, чытач не дарос! Паглядзіце, як у наступным стагоддзі народ зацікавіцца тымі кніжкамі. Вельмі добра, калі такое здарыцца. Аднак яшчэ Леў Талстой сцвярджаў, што ніхто не ведае, які твор людзі возьмуць у рукі нават праз дзесяць, дваццаць год пасля яго напісання.

Сарамяжка, абыходліва гаворыць наша крытыка пра ідэйную накіраванасць твораў. Ну, на дзесятак артыкулаў адно, два словы!.. Тут мне не хочацца заклікаць да вышуквання безыдэйных мастацкіх палотнаў. Такіх, дапусцім, за апошняе дзесяцігоддзе не з'яўлялася ў беларускай літаратуры. А высокаідэйныя былі? Многа! А дзе, калі які крытык тлумачыў масаваму чытачу, чаму пэўны твор побач з высокімі мастацкімі якасцямі ўбірае яшчэ і вялікі сацыяльны змест? Амаль нідзе! Амаль ніколі! Паўтараю, гэта «амаль» таму, што крытыкі — даўно стала шаблонам — адно толькі і ведаюць: творы з больш яўнай публіцыстычнай скіраванасцю і ёсць больш ідэйныя.

Сарамяжка, скупа, асцярожна гаворым мы пра светапогляд героя, пра

---

Як бы мы ні гаварылі, а крытыкі ніхто не любіць: ні паэты, ні празаікі, ні самі крытыкі. Таму сваё выступленне мне хочацца пачаць з закліку: «Любіце крытыку! Чытайце манаграфіі, даследаванні, артыкулы! Далібог, не пашкадуеце, многа чаго вычытаеце, многа новага адкрыеце для сябе».

Каб не быць галаслоўным, раскажу пра кнігу, якая прымусіла мяне змяніць погляды на крытыку, палюбіць яе. Называецца кніга так: «Сучасная беларуская паэзія». Выдадзена яна ў 1970 годзе выдавецтвам «Навука і тэхніка» пад грыфам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР. Жанр кнігі не вызначаны, але ў прадмове асцярожна сказана: «Гэта праца — адна з першых спроб на шляху да ўсебаковага даследавання...» У анатацыі крыху смялей: «Увага даследчыкаў засяроджана на...» Значыць, аўтары ўсё ж маюць прэтэнзію на званне даследчыкаў. На тое яны і аўтары. Іх чацвёра: У. Гіламёдаў, М. Барсток, М. Арочка і І. Ралько. Укладальніка няма. Затое рэдактары вельмі салідныя — акадэмік АН БССР В. Барысенка і кандыдат філалагічных навук П. Дзюбайла.

Чытаючы-перачытваючы гэтую кнігу-даследаванне, кожны раз адкрываеш для сябе нешта новае. Напрыклад, цяпер я маю поўнае ўяўленне аб тым, як пішуцца даследаванні. Галоўнае тут — падабраць сабе апанентаў. Не такіх, з якімі можна спрачацца (тады ж давядзецца нешта даказваць!), а больш пакладзістых, якія б «працавалі» на даследчыка. І яшчэ— каб імёны іх гучалі, не былі «заезджаныя». Тады атрымаецца поўная ілюзія навуковай працы. Вось як гэта выглядае на практыцы:

«Але тут жа ён (А. І. Барычэўскі) слушна заўважае...» (стар. 6).

«...справядліва гаворыць крытык Б. Рунін...» (стар. 6).

«...пераканаўча гаварыў даследчык гэтага літаратурнага роду С. Баброў...» (стар. 15).

«...пра гэта гаварыў яшчэ А. І. Барычэўскі...» (стар. 15).

«...нельга не прыслухацца да думкі крытыка Б. Сарнова...» (стар. 26).

«А. Адамовіч слушна і справядліва адзначае...» (стар. 38).

«...пераканаўча сведчыць І. Бехер...» (стар. 38).

«...Ю. Марцінкявічус... слушна заначае...» (стар. 100).

«...зусім слушна заўважыў К. Чорны...» (стар. 117).

«...слушна заўважае Н. С. Перкін...» (стар. 122).

«...слушна заўважае Б. Бур'ян...» (стар. 162).

«...слушна заўважае А. Лойка...» (стар. 178).

«Справядліва ў гэтым сэнсе пісаў Бадуэн дэ Куртэнэ...» (стар. 28) і г. д., і да т. п.

Прыемна, калі да цябе нехта «пераканаўча сказаў» і «слушна заўважыў». Бяры яго цытаты, думкі, высновы і — ляпі сваё даследаванне. А цытату можна выбраць такую, што

*РЭПЛІКА*

# ПРА «МОЦНУЮ ПЛЫНЬ» І «СЛУШНЫЯ ЗАЎВАГІ»

Хведар ЖЫЧКА

не толькі масавага чытача, але і прафесара аглушыць. Самыя эфектныя цытаты звычайна даюцца без двукоссяў, — маўляў, даследчык удасканаліў яе, паглыбіў думку. Напрыклад.

«Толькі нядаўна С. А. Саркісаў і Н. С. Прэабражэнскі на аснове выключна тонка праведзеных эксперыментаў прыйшлі да вываду аб наяўнасці індывідуальнай варыябельнасці архітэктанічных палёў і структуры нейронаў кары мозгу чалавека. Асабліва вялікая варыябельнасць адзначаецца ў філагенетычна новых участках кары, якія ўдзельнічаюць у ажыццяўленні складаных спецыфічна чалавечых функцый». (Стар. 259).

Здорава, праўда? Асабліва, калі ўлічыць, што ўся кніга — пра паэзію. Гэта вам не дапатопныя ямбы і метафары! Засвойце спачатку «варыябельнасць», а потым пагаворым пра паэзію...

І дзіўна, як толькі аўтары пераходзяць да канкрэтнага разгляду твораў, лексікон іх бяднее, ілюзія вучонасці знікае. Наўздагад разгортваю кнігу, на 178 старонцы чытаю: «Аўтар бярэ адзін з самых драматычных перыядаў у гісторыі...», «Аўтар вывучыў архівы, летапісы...», «Аўтар дае трапныя характарыстыкі...», «Аўтар не ідэалізуе бунтарскую сялянскую масу...» Тое ж самае і на наступнай, 179 старонцы: «Маляўніча паказваў аўтар...», «Аўтар багата выкарыстоўвае фальклор...» Гэта пра паэму П. Бітэля «Замкі і людзі».

А вось пра зусім розныя творы:

«...паэмы П. Труса, прасякнутыя лірызмам, меладычнасцю, што ішла ад народнай песні» (стар. 113).

«Паэма («Новая зямля» Я. Коласа) прасякнута народным духам, нацыянальным каларытам» (стар. 109).

«Драматычная паэма «Над Бярозай-ракой» — самы значны эпічны твор у беларускай паэзіі 30-х гадоў» (стар. 120).

«Моцная эпічная плынь адчуваецца ў паэме Я. Коласа «Адплата» (стар. 127).

«У вершаваных аповесцях А. Куляшова моцны фальклорны элемент» (стар. 145).

«Асабліва моцна фальклорная стыхія адчуваецца ў паэме Я. Купалы («Над ракой Арэсай»)» (стар. 121).

«У ёй (паэме «Над Бярозай-ракой») моцна адчуваецца народна-нацыянальная аснова...» (стар. 120).

«У паэме («Нарач» М. Танка — **Хв. Ж.**) ярка выступае народна-нацыянальны элемент» (стар. 130).

Кожная з прыведзеных цытат — універсальная шпаргалка для студэнтаў філалагічных факультэтаў. А такіх вызначэнняў у кніжцы — безліч. Скажам, тыя ж паэмы «Над Бярозай-ракой» і «Сцяг брыгады» аднолькава «вызначаюцца шырынёй ахопу падзей», «народны элемент» праяўляецца ва ўсіх паэмах П. Броўкі, П. Глебкі і М. Танка.

Узнікае пытанне: а што ж яшчэ ёсць у кнізе, апрача гэтых шаблонных азначэнняў і «слушных» цытат?

Ёсць яшчэ... даволі прымітыўныя пераказы некаторых твораў сучаснай беларускай паэзіі. Напрыклад, такія:

«У паэме «Эдэм» тры асноўныя героі. Але гэта незвычайны трохкутнік. Гераічныя савецкія людзі, камандзір партызанскага атрада Андрэй Саковіч і яго жонка Наста, процістаяць тут дэзерціру і адшчапенцу Юхіму, які спадзяецца атрымаць ад акупантаў дом і млын бацькі-кулака. За гэтымі героямі адчуваюцца два варожыя станы». (стар. 125).

«У цэнтры сюжэтнага развіцця тут (у паэме А. Зарыцкага «Аповесць пра залатое дно»—**Хв. Ж.**) незвычайны трохкутнік: стары прафесар, дырэктар навукова-даследчага інстытута Антон Кузьміч Крушына, вучоны сакратар — спрытны прайдзісвет і кар'ерыст Віктар Шпунт і сур'ёзны добрасумленны працаўнік Якуб Шаціла, заняты вынаходствам балотнага карабля» (стар. 147).

Вось ужо гэты класічны трохкутнік! Нікуды ад яго не дзенешся, асабліва, калі ён яшчэ і «незвычайны»...

Ёсць яшчэ... разважанні. Аказваецца, можна з самым сур'ёзным выглядам разважаць: хто павінен быць персанажам сучаснай байкі — звер ці чалавек?..

Ёсць яшчэ...

Але хопіць прыкладаў. Як я ўжо сказаў, крытыкі не любяць і самі крытыкі. Заканчваю артыкул усё тым жа заклікам: «Любіце крытыку, чытайце манаграфіі, даследаванні і артыкулы! А хто яшчэ не мае кнігі «Сучасная беларуская паэзія», спяшайцеся набыць яе. Цікавая кніга і, магчыма, хутка стане бібліяграфічнай рэдкасцю». Я асабіста спадзяюся і веру, што выдавецкія работнікі і пісьменніцкая грамадскасць зробяць усё, каб падобныя кнігі не выходзілі ў свет.

---

**СЛОВА БЯРЭ ЧЫТАЧ**

# КАЛІ САПРАЎДЫ ЦІКАВА...


А. ПСІКАЎ,

рабочы завода імя Кірава, студэнт-завочнік БДУ


Добра, вельмі добра, што газета «Літаратура і мастацтва» распачала шырокую размову пра стан і задачы нашай крытыкі і літаратуразнаўства. Наша крытыка сапраўды патрабуе ўвагі. І справа, думаецца, не толькі ў тым, што на «адмоўным» рахунку крытыкі — нікуды не дзенешся — ёсць, надараецца, усё тое, пра што са шкадаваннем даводзіцца гаварыць, калі справа тычыцца крытыкі.

Гэта так: бракуе патрабавальнасці, бываюць зыпадкі прадузятасці, шмат разоў дзівішся разбежцы ў ацэнцы твораў, ніяк не звядуцца рамесніцтва і халтура...

Але ж, з другога боку, як мала, як рэдка гаворыцца ў нас пра набыткі крытыкі, пра ўдачы майстроў крытычнага цэху. Як крыўдна бывае, калі выдатныя (так, выдатныя!) рэцэнзіі, цікавыя артыкулы, змястоўныя і глыбокія крытычныя выступленні застаюцца амаль незаўважанымі, і мы нават не ведаем, ці прачытаў іх хто-небудзь, апрача самага вузкага кола спецыялістаў і зацікаўленых асоб.

Нешта не прыпамінаецца мне, каб у нашым друку хоць калі была грунтоўна разгледжана не адна кніга, а творчасць крытыка, каб ішла размова пра майстэрства і **свет** таго ці іншага крытыка. Калісьці ў «ЛіМе» пад рубрыкай «Пісьменнік за рабочым сталом» былі змешчаны цікавыя артыкулы пра Уладзіміра Калесніка і Генадзя Кісялёва. А болей? Газеце, мне здаецца, варта аднавіць былую добрую завядзёнку.

Хочацца, каб у размове, што вядзецца на старонках штотыднёвіка, было аддадзена больш ўвагі «станоўчаму», каб гаворка пра нашых крытыкаў і літаратуразнаўцаў была больш канкрэтнай. Зразумела, што пры пэўным накірунку думак у тым ці іншым артыкуле немагчыма абысціся без пераліку імёнаў, але ж куды больш цікава, больш карысна, калі пра асобных аўтараў гаворыцца падрабязна.

Пра крытыку трэба гаварыць з пашанай, увагай, без раздражнення. Пісьменніку, які часам з раздражненнем ахайвае ўсю нашу крытыку, хочацца запярэчыць: літаратура спакон веку мела такую крытыку, якую яна заслугоўвала. І хоць без агаворак не

тваіх калег загучаць фальшывым, але раз'юшаным у сваім адчаі неразумення «ансамблем аднадумцаў». Калі ж ты не такі самаўпэўнены і цябе іншы раз наведваюць сумненні, то з цягам часу ты напрактыкуешся ў некаторай нюансіроўцы, але па сутнасці застанешся тым жа акцёрам—тыпажом. І з-за недахопу часу карпатліва працаваць і свядома спасцігаць таямніцы майстэрства, пры наяўнасці вытворчага плана выпуску спектакляў, а не стварэння яго (да гэтага тэрміну нас прывучылі адміністратары і дырэкцыя, хутка будзем гаварыць «выпуск ролі») рэжысёр заўсёды будзе забяспечваць цябе для большай зручнасці і меншай затраты часу і энергіі ролямі пад твой тыпаж. А індывідуальнасць? Яна толькі іншы раз будзе непакоіць цябе, як незадаволенасць сабой, як унутраны голас чалавека, які не зусім страціў сумленне. Разумны крытык з абсалютным слыхам або добрай памяццю нагадае пра яго, але іншыя і ты сам назавуць гэта самавыяўленнем, што гучыць вельмі прыемна і значна.

Вось і яшчэ знайшлася адна сцяжынка, на якую ты звярнуў са шляху, пачаткам якога была твая індывідуальнасць, а далей у бясконцасць адыходзілі вобразы, вобразы, вобразы...

Не, што ні кажы, але ёсць добрае ў тым, што акцёр крытычна падыходзіць да ролі і, скажам, калі яму дазволяць акалічнасці, адмовіцца ад яе. Гэта—мужнасць мастака, артыста!.. А як мы робім, калі гэтую ж самую шчырасць, бясполасць прапануюць нам не ў тэатры, а на радыё, на тэлебачанні, у кіно? Там ты бачыш сябе часова, не пастаянна, ставішся да гэтага як да пабочнага заробку (гэта прыгожыя словы), а ва ўжытку называеш «халтурай».

**Супакойваеш сябе: маўляў, мала было часу, перадача тэрміновая, рэжысёр нетрабавальны, і сапраўды, імгненнасць такой работы не пакідае памятнага следу ў табе, як у тэатры. Але частыя паўторы падобнага скажаюць крытэрыі, густ, успрымальнасць, ператвараюць цябе ў паслухмяную марыянетку, атупляюць індывідуальнасць, і яна ўцякае ад цябе— рамесніка, падзёншчыка і паразіта мастацтва. А чаму ж ты не праяўляеш прынцыповасці ў гэтых выпадках?**

Ці ёсць у цябе права пасля такіх адносін да акцёрскай творчасці лічыць сябе асобай у мастацтве! Не сакрэт, што многа часу ты аддаваў анекдотам, плёткам, даміно, калятэатральным размовам і так губляў нешта ў самім сабе. І іграў на сцэне чарговую ролю паміж гэтымі гульнямі ў даміно і пустымі размовамі. І ў самы неабходны момант, калі сапраўды неабходна праяўленне тваёй асобы, асоба гэта аказваецца пустой, незапоўненай і, апрача грукату пустазвоннага, са сцэны ад цябе нічога не пачуеш.

**Якія там думкі! Цвікі, якія акцёр адчайна забівае ў стынучага гледача! Прымітыў ты перастаеш нават заўважаць у сваім выступленні на сцэне.**

**Дзеянне—аснову асноў сцэнічнага твора ты часта замяняеш простым расфарбоўваннем слоў. Слова губляе дзейснасць, і на вачах у здзіўленага гледача акцёр ператвараецца ў дрэннага чытальніка.**

**Касцюм — і той страціў індывідуальнасць, для яго таксама адзін закон—тыпажнасць, і вандруе ён са спектакля ў спектакль, саступаючы толькі крыку моды.**

Натхненне і спробы наўздагад трапіць у цэль—не дапамогуць! Прафесіі трэба вучыцца, ёю трэба авалодваць няспынна, калі хочаш прыходзіць у тэатр і на вялікую сваю радасць даведвацца, што табе яшчэ трэба сустрэцца з незнаёмай і даўно жаданай роляй. Гэта сустрэча дазволіць вырашыць мноства задач, якія стаяць перад табой, эксперыментаваць і адкрываць, дазволіць, нарэшце, стаць акцёрам, сапраўдным майстрам, і толькі тады праз вобразы будзе праглядваць асоба багатая, якая сцвярджае вялікія мэты дабра, чалавечнасці, справядлівасці, сумленнасці, прынцыповасці. Трэба захапляць рэжысёра, а не чакаць, пакуль ён захопіць цябе, трэба гэта рабіць, каб не было горычы, расчараванняў і сораму ў тваёй душы, каб, калі закончыўся спектакль,—ты б не ўбачыў у фае абыякавага гледача. Трэба ўмець, ведаць і любіць. Трэба вучыцца сваёй прафесіі.

---

**на сваё жыццё. Паважайце гэтае права!»—такія словы сустракаеш амаль ва ўсіх водгуках на спектакль, дарэчы, яны перш-наперш адрасуюцца У. Макараву, які гэтае пачуццё асабістай годнасці ў Ігару раскрывае пакуль што слабавата.**

Падлеткі хочуць і ўвагі, і клопатаў з боку дарослых, але ўвагі ненадакучлівай, клопатаў без дэспатычнага навязвання чужой волі. Усе аўтары сачыненняў з вялікай сімпатыяй пішуць аб артыстцы А. Ротэр, якая сыграла ролю Варынай бабулі. У гэтым вобразе яны адчулі самае галоўнае. І адна са школьніц так тлумачыць сваё ўражанне:

«Што мне асабліва спадабалася ў сям'і Вары, дык гэта абсалютнае ўзаемаразуменне і давер. Бабуля верыць у сваю ўнучку, у чысціню яе думак і намераў. На першы погляд здаецца, што Вары прадастаўлена неабмежаваная свабода, але паступова разумееш, што бабуля ведае пра Вару ўсё, кіруе яе ўчынкамі і сама служыць ёй прыкладам».

Сама ж Вара ў выкананні артысткі К. Доўнар не выклікала такой аднадушнай сімпатыі ў юных гледачоў. Магчыма, яны не ўлавілі ў манеры яе ігры прытоенай тугі, сарамлівасці, якую Вара хавае пад маскай лёгкадумнай дзяўчынкі. Мы, дарослыя, гэта адчулі. Падлеткі ж выказваюць сумненні. «Гераіня спектакля мне здалася не зусім сур'ёзнай. Яе сям'і жывецца не так ужо і лёгка, гэта павінна рабіць яе больш дарослай, прымусіць больш думаць аб жыцці, аб блізкіх. Ва ўсякім разе, Вара не павінна быць такой бестурботнай і па-дзіцячы смешнай» (Валерый Нагібовіч).

Тэатру, мабыць, варта прыслухацца да такога ўспрыняцця вобраза.

Нямала заўваг і ў адрас іншых выканаўцаў роляў, прычым часта здзіўляе чысціня і свежасць, здавалася б, няхітрых разважанняў:

«Мілка (артыстка З. Паўлоўская) выглядае адкрыта смешнай. Мне здаецца, што дзяўчынка, якая дзеля таго, каб спадабацца хлопчыку, перарабляе сваю паходку і выдумвае незвычайныя каўнерыкі, павінна саромецца гэтага, а не выстаўляць напаказ» (Валя Вайцахоўская).

Асабліва «дастаецца» Марыне. Юныя гледачы не прымаюць гэты персанаж ні ў п'есе, ні ў спектаклі. «Дзеля Ігара яна завучвае напамяць цэлыя старонкі мастацкай літаратуры. Мне дзіўна адно: якім чынам яна нічога не бярэ з прачытанага? Яна і тупая, і хітрая, і зайздросная, і подлая. Ці не згушчаны фарбы?»

І пра выканаўцу ролі Марыны Ю. Палосіну: «Яна неяк «не глядзіцца» сярод сваіх таварышаў. На працягу ўсяго спектакля ў яе адчуваеш унутраную скаванасць і напружанасць» (Люда Баранава).

А гэта прэтэнзія да рэжысёра: «З апошняй сцэны незразумела, што перамагае ў Марыне — дабро ці зло. Ад гледачоў схавана яе сапраўднае аблічча» (Ігар Сідорчык).

Цікавая яшчэ адна думка: «Незразумела, што галоўнае ў спектаклі: працэс станаўлення асобы ці іншыя праблемы». Сапраўды, недакладнасць рэжысёрскіх рашэнняў у спектаклі ёсць. Яе заўважылі дзеці і ў трактоўцы галоўнага вобраза— Вары Машко. «Вара выходзіць першы раз на сцэну нейкая ўжо занадта шэранькая, у брудных кедах на босую нагу. Можа, так яно па ходзе п'есы і трэба, але ўсе гэтыя дэталі неяк адштурхоўваюць гледача ад дзяўчынкі». (Саша Бельскі).

П'еса Т. Ян мае дзве назвы—«Варуха» і «Дзяўчынка і красавік». У тэатры выбралі другую, бо ўвесь спектакль аўтары імкнуцца напоўніць атмасферай вясны і юнацтва. Яркія і ў той жа час пяшчотныя фарбы, музыка, меладычны звон крышталёвага кубка—усё гэта цудоўнае юнацтва, яго светлы каларыт, які добра адчулі нашы школьнікі. «Чаму спектакль названы «Дзяўчынка і красавік»?—піша Вера Сакалова.—Напэўна, таму, што дзяўчынка сустрэла чалавека, якога яна вельмі пакахала, і гэтае каханне (а яно было першым) прыйшло да яе так, як прыходзіць вясна—бурна, радасна! Прыход вясны заўжды ажыўляе прыроду. І гэтае каханне таксама ажывіла душу дзяўчынкі, напоўніла яе добрым, пяшчотным, цудоўным пачуццём. Душа яе раскрываецца ўсім людзям, яна нібы хоча сказаць: «Паглядзіце на мяне, я шчаслівая і хачу раздзяліць гэтае шчасце з усімі людзьмі».

Калі б так успрымалі спектакль усе гледачы, тэатр мог бы лічыць, што ён справіўся з пастаўленай задачай. Але ў большасці сачыненняў вывады значна больш стрыманыя. «Увогуле спектакль мне спадабаўся. Праўда, ён не выклікаў у мяне ні асабліва бурных эмоцый, ні гарачага спачування героям п'есы. Я чамусьці ўспрыняла спектакль як расказ пра нешта чужое, што мяне не датычыць». Гэтыя радкі напісаны адной з самых сур'ёзных, удумлівых і здольных вучаніц. Далей яна сама імкнецца растлумачыць сваё ўражанне: «Мне здаецца, што артысту значна лягчэй пераўвасобіцца ў свайго равесніка ці нават у гістарычную асобу, чым у вучня, беды якога, магчыма, здаюцца яму смешнымі, а радасці — наіўнымі»...

ЗАЎВАГІ, на якія мы спасылаемся, адлюстроўваюць пэўны настрой аўдыторыі, які застаецца з ёй і пасля спектакля. Свет падлетка ніколі не быў просты і наіўны, а свет падлетка сённяшняга — на дзіва складаны і своеасаблівы. Акцёрам варта яшчэ папрацаваць, паглыбляючы псіхалагічную праўду вобразаў, і аднесціся да сваёй юнацкай аўдыторыі з той сур'ёзнасцю і павагай, якой яна заслугоўвае. І тады не будзе аўдыторыі больш удзячнай.

**Н. ЛУР'Е,**
настаўніца 2-й сярэдняй школы г. Мінска.

---



АКЦЁРЫ І РОЛІ

# ПАДПАЛКОЎНІК ПАТАНІН ВЕРЫЦЬ...

*МАЦВЕЙ ФЕДАРОЎСКІ Ў СПЕКТАКЛІ «НАЧНОЕ ДЗЯЖУРСТВА» Ў АКАДЭМІЧНЫМ ТЭАТРЫ ІМЯ Я. КУПАЛЫ*

Спачатку ён выглядае спакойным. Хоць сюды, да доктара Марозава, у неўралагічнае аддзяленне бальніцы людзі без сур'ёзнай прычыны не ходзяць. Але ж ён вайсковец, на ім мундзір. Таму нельга паказваць, якое вялікае гора прымушае цябе чакаць — з надзеяй, з трапяткой верай — адказу ад маладога, па сутнасці, чалавека ў белым халаце, бо гэты малады чалавек урач. І па твары падпалкоўніка хмаркай пралятае трывога, глыбока ў душы прытоеная, і ў вачах агеньчыкі, якія цяжка, немагчыма пагасіць. Хварэе жонка Патаніна. Яму ўжо і намякалі, і асцярожна, але адкрыта гаварылі, што хвароба можа быць працяглай, можа быць назаўсёды... Малады Марозаў таксама блізкі да таго, каб сказаць такое. А ён, падпалкоўнік Патанін, ваяваў, бачыў смерць за крок ад сябе, глядзеў ёй у твар, і ён ведае, што здараецца цуд, што смерць адступае. Не, яму не хочацца дакараць «эскулапаў», патрабаваць ад іх немагчымага. Стрымліваючы сябе, сціскаючы сэрца ў валявым напружанні, герой артыста Мацвея Федароўскага захоўвае інтэлігентную ветлівасць, прапануе такі характар размовы, калі адзін субяседнік выклікае давер у другога і ствараецца атмасфера шчырасці.

І ўсё ж гаварыць пра гора абсалютна спакойна немагчыма. І ў яго ў голасе прарываецца — насуперак валявому напружанню — усё ж дакор. Артыст знаходзіць такія інтанацыі, якія яшчэ нясуць на сабе халадок свядома абранай Патаніным вытрымкі, але яны і апалены ўнутраным напалам сэрца, якое не бывае абыякавым ні да чужога, ні да свайго гора. Прымушаючы сябе вымаўляць гэта тактоўна, ён «скідае» з вуснаў напамінак пра мужнасць і веру Флемінга, які ішоў да мэты і тады, калі ніхто ўжо не мог падтрымаць яго, Флемінг адчуваў абавязак і знайшоў сродак для ратунку хворых... Крый божа, каб Марозаў пакрыўдзіўся! Патанін, і гэта мы чуем у голасе выканаўцы ролі, «угадаў» у гэтым неспакойным маладым чалавеку асобу, здольную думаць самастойна, рызыкаваць, прымаць рашэнні, якія для многіх здаюцца «донкіхоцкімі». І толькі таму ўспамінае Флемінга.

...Ты, Марозаў, можаш прыняць прозвішча смелага вынаходцы як дакор, але можаш — і як камплімент, як веру ў цябе. Чаму я так шчыра гавару з табой, хоць з першага погляду гэта падобна толькі на дакор у адрас яшчэ аднаго «эскулапа»? Ды толькі таму, што мая служба выпрацоўвае ў нас, вайскоўцаў, уменне па-снайперску разгадваць натуру чалавека, з якім мы маем справу. Каб трохі ўлагодзіць субяседніка, цябе, Марозава, я нават скажу так: «Што ж, буду чакаць свайго Флемінга», ім можаш быць і ты, калі ты сапраўдны медык, па прызванні, а можа і хто іншы. Але я веру, буду чакаць, і ён знойдзецца!..

Мацвей Федароўскі ўмела насіць вайсковы мундзір, лаканічныя рэплікі вымаўляе так, як яны звычайна гучаць у вуснах армейскіх людзей. І ў тым, як ён паводзіць сябе тады, калі гаворка ідзе пра самае запаветнае ў патанінскім жыцці, яго герой застаецца інтэлігентным. Ён разумее і нават паважае Марозава, ён гатовы нават падтрымаць намер маладога ўрача «вырвацца» з правінцыі. Ды толькі так Флемінгі не робяць...

Складаныя пачуцці, якія я тут паспрабаваў перакласці на мову логікі, «схоплены» М. Федароўскім і перададзены ім па-акцёрску вельмі ўражліва. Па тэксце ў п'есе А. Дзялендзіка роля не надта вялікая. Такія ролі называюць другараднымі. У «Начным дзяжурстве» на купалаўскай сцэне Патанін справядліва, па ўнутранай маштабнасці вобраза, створанага артыстам, займае месца ў першым радзе дзейных асоб спектакля. Па тым, як у гэтай натуры за знешняй вытрымкай жыве заўсёдная гатоўнасць да актыўнага ўчынку, здагадваешся, што рана, ой, як рана кранула сівізна яго скроні — там, на вайне, у атаках... Патанін М. Федароўскага і маўчыць часцей за ўсё так, як маўчаць, чакаючы ракеты з сігналам на штурм. Мабыць, і хвароба Патанінай — гэта «рэха вайны». І таму ён удвая абавязаны змагацца за яе вяртанне да нас, да людзей, якім адкрыты радасці і сум жывога жыцця.

**Толькі аднаго разу на твары М. Федароўскага ўспыхвае, як кароткая маланка, усмешка. У фінале. Не, яна не ад таго, што драматург і рэжысура вядуць Патаніна да хэпі-энда: падпалкоўнік выканаў тое, аб чым яго прасіў доктар Марозаў, і тым выратаваў, магчыма, чыёсьці жыццё. А калі падпалкоўнік Патанін выконвае абавязак, узяты на сябе, калі перамагае, у яго з'яўляецца прафесійна зразумелае пачуццё радасці. Хай нам пагражае самая небяспечная бяда — трымайся, дзейнічай. І—вер! Вер у зорку перамогі. Тады і ты сам будзеш у нечым блізкі да няўрымслівага племені Флемінгаў...**

Ён стукнуў абцасамі. Паправіў рамень. Калісьці пра такія справы падпалкоўнік Патанін рабіў даклад вышэйшаму камандзіру. Там, на вайне. Цяпер проста паведамляе пра зробленае доктару Марозаву, цывільнаму чалавеку. Якому ён паверыў. І сваёй верай ўсклаў на Марозава абавязак «здабываць» з сябе, з Марозава, таго Флемінга, няўрымслівага і патрэбнага людзям.

І яшчэ. Па ўсіх паводзінах, па прытоеных інтанацыях голасу, калі герой М. Федароўскага гаворыць пра хворую жонку, мы здагадваемся, якая яна, яго каханая, яго сапраўдны і назаўжды адданы друг. А гэта ўжо мастацтва надзвычай тонкае — даць уяўленне гледачу аб тым, каго тэатр на сцэну не выводзіць.

Усё зроблена артыстам на высокім прафесійным узроўні. На даволі абмежаваным драматургічным плацдарме ролі. Магчыма, больш за тэкст складаную гаму пачуццяў, якімі жыве Патанін, перадаюць вочы выканаўцы. «Добры артыст разумее цану свайго пагляду і толькі адным адхіленнем ад лініі гарызонту направа або налева, угору або ўніз дасць патрэбны ігравы акцэнт, які будзе зразумелы гледачу...» Гэта — Усевалад Меерхольд. Калі бачыш М. Федароўскага ў «Начным дзяжурстве», адчуваеш, што перад табой такі добры артыст.

**Барыс БУР'ЯН.**

«З ПОШТЫ «ЛІМа»

# ВЫ ГАВОРЫЦЕ ПА-АНГЛІЙСКУ?

**Чаму моладзь, якая заканчвае сярэднюю школу, слаба ведае замежную мову? Гэтаму і іншым пытанням, звязаным з выкладаннем замежнай мовы ў школе, быў прысвечаны артыкул Г. Коканавай «Ду ю спік інгліш!», змешчаны ў «Літаратуры і мастацтве» 16 ліпеня 1971 года.**

**Артыкул выклікаў цікавасць выкладчыкаў-«замежнікаў». Сёння мы змяшчаем некалькі водгукаў на артыкул і адказ на яго Міністэрства асветы БССР.**

## МЯРКУЕ МІНІСТЭРСТВА АСВЕТЫ БССР...

*У артыкуле «Ду ю спік інгліш?», апублікаваным у газеце «Літаратура і мастацтва» 16 ліпеня г. г., закрануты шэраг пытанняў, звязаных з выкладаннем замежных моў у школе.*

*Міністэрства асветы БССР, метадычныя ўстановы правялі ў апошнія гады шэраг практычных мер, накіраваных на паляпшэнне вывучэння замежнай мовы, павышэнне навучальнай і выхаваўчай ролі гэтага прадмета.*

*У сувязі з пераходам на новы змест навучання, пры тых жа асноўных патрабаваннях — навучыць вучняў весці гутарку на замежнай мове і чытаць з поўным разуменнем замежныя тэксты з навукова-папулярнай, грамадска-палітычнай і мастацкай літаратуры, у школах былі ўведзены новыя вучэбныя дапаможнікі, якія складаюцца з падручніка, кнігі для настаўніка, набору грамафонных пласцінак, дыяфільмаў, граматычных табліц, табліц-карцін і кніг для чытання.*

*З мэтай павышэння эфектыўнасці навучальна-выхаваўчага працэсу шырэй выкарыстоўваюцца магчымасці забеспячэння школ гукатэхнічнымі сродкамі, прадугледжанымі пералікам тыповага абсталявання.*

*Штогод павялічваецца колькасць школ, абсталяваных лінгафоннымі кабінетамі.*

*У мэтах паляпшэння падрыхтоўкі настаўнікаў замежнай мовы, павышэння іх кваліфікацыі, Рэспубліканскім, Мінскім гарадскім і абласнымі інстытутамі ўдасканалення настаўнікаў штогод праводзяцца курсы павышэння кваліфікацыі, семінары, практыкумы, арганізоўваюцца сустрэчы і кансультацыі з лепшымі спецыялістамі ў гэтай галіне.*

*У 1969 навучальным годзе ў Мінску былі арганізаваны гадавыя курсы ўдасканалення настаўнікаў без адрыву ад вытворчасці на базе Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў.*

*У Мінску на пасяджэннях гарадскіх і раённых секцый настаўнікаў замежнай мовы абмяркоўваюцца актуальныя праблемы методыкі, настаўнікі абменьваюцца вопытам сваёй работы. Па выніках інспектарскіх праверак праводзяцца семінары і гутаркі.*

*Калегіяй Міністэрства асветы БССР адобраны план мерапрыемстваў Мінскага дзяржаўнага інстытута замежных моў па аказанні дапамогі школам Беларускай ССР на бліжэйшыя два гады. Планам прадугледжана аказанне дапамогі кафедрамі інстытута настаўнікам у рабоце па новых падручніках, па ўкараненні найбольш эфектыўных метадаў навучання ў практыку работы школ.*

*Уведзеныя новыя вучэбныя дапаможнікі па замежнай мове правяраюцца АПН СССР з мэтай іх дапрацоўкі і стабілізацыі ў наступныя гады.*

*Безумоўна, пераход на новы змест навучання і новыя падручнікі звязаны з вялікімі цяжкасцямі і перш за ўсё з перападрыхтоўкай педагагічных кадраў, узбраеннем іх глыбокім і правільным разуменнем ідэй новых праграм, праблем, якія вырашае наша школа. Да гэтых пытанняў і ўзмоцнена ўвага з боку педагагічных і метадычных устаноў.*

*Рад пытанняў, закранутых аўтарам у артыкуле, мае патрэбу ва ўдакладненні, больш канкрэтнай пастаноўцы.*

**М. ДАРАФЕЕНКА,**
начальнік Упраўлення школ Міністэрства асветы БССР.

## МЯРКУЮЦЬ НАСТАЎНІКІ...

Я ПРАЦУЮ ў спецыянальнай «англійскай» школе. Натуральна, на выкладанне англійскай мовы ў нас даецца больш часу, чым у звычайнай школе. Тым не менш, многае з таго, што турбуе аўтара артыкула «Ду ю спік інгліш?», блізкае і мне.

Буду гаварыць канкрэтна. Раней, напрыклад, у нас на англійскай мове выкладаліся і іншыя дысцыпліны, напрыклад, геаграфія. Зараз — не. Чаму? Змянілася праграма па геаграфіі, а падручніка па-англійску няма. Няма адпаведных падручнікаў па літаратуры для 9—10 класаў, па тэхнічным перакладзе (тут даводзіцца выкарыстоўваць падручнікі для ВНУ, а гэта не зусім добра).

І яшчэ. На маю думку, школьная праграма па замежнай мове, якой мы кіруемся, надае больш увагі граматыцы, чым набыццю практычных моўных навыкаў.

**В. ІКОННІКАВА,**
загадчык навучальнай часткі па англійскай мове школы № 30, г. Мінск.

●

КАБ ВУЧНІ маглі добра гаварыць па-нямецку, трэба больш гаварыць на гэтай мове. Паўстае пытанне, а калі? На ўроку пры двухгадзіннай тыднёвай сетцы гаварыць на мове няма калі. На гэтых уроках даводзіцца толькі гаварыць ПРА МОВУ. Некаторыя выкладчыкі замежных моў лічаць, што лінгафонныя кабінеты і тэхніка могуць сказаць тут сваё сур'ёзнае слова.

Але каб рэгулярна працавалі лінгафонныя кабінеты, трэба таксама, каб плёнкі не рваліся, каб запісы былі чыстыя, каб прыбор быў спраўны і г. д. Патрэбны фанатэка, дыяфільмы, вучэбныя фільмы. Гэта я кажу са свайго вопыту. Бо адзінаццаць гадоў я працую ў школе з выкладаннем раду прадметаў на нямецкай мове. У нас ёсць і магнітафоны, і лінгафонны кабінет (школа наша спецыяльная — «нямецкая»), і газеты на нямецкай мове, і многа дадатковай літаратуры. Канечне, узровень ведаў нашых вучняў намнога вышэйшы, чым у вучняў звычайных школ, але мне здаецца, што тут заслуга перш за ўсё сеткі гадзін, а потым ужо якасці работы настаўнікаў. Што датычыць якасці нашых падручнікаў, дык хочацца сказаць, што яны не заўсёды даюць веды сапраўднай гутарковай нямецкай мовы. У гэтым я пераканалася ў час месячнай камандзіроўкі ў ГДР, дзе я займалася на міжнародных курсах павышэння кваліфікацыі.

Так, нам, выкладчыкам замежнай мовы, не хапае слоў па бытавой лексіцы. Мы пераважна добра валодаем палітлексікай, школьнай і літаратурнай, а вось лексікі штодзённага ўжытку ў нас маленькі запас. І ў гэтым, мне думаецца, трэба папракнуць інстытут замежных моў і дапаможнікі, якія выдаюцца на нямецкай мове, а таксама падручнікі, па якіх вучацца нашы вучні.

Што датычыць вымаўлення, то вельмі хацелася б, каб інстытут аказаў нам істотную дапамогу. Бо працуюць жа ў многіх школах Мінска метадысты інстытута настаўнікамі. Хацелася б, каб іх урокі былі заўсёды адкрытыя для радавых настаўнікаў хоць бы тых школ, дзе яны працуюць. Вельмі пажадана хоць бы адзін раз на тыдзень займацца па фанетыцы (практычна) з выкладчыкам (фанетыстам) інстытута.

І яшчэ. Каб добра вучыць, трэба ведаць, чаму вучыць. Чаму ўдзяляць больш увагі — размове, граматыцы, пісьму або вымаўленню? Пры сучасных умовах у звычайных школах усяму добра навучыць немагчыма. Дык што ж галоўнае? Як быць настаўніку?

**С. САРОКА,**
настаўніца школы № 24, г. Мінск.

●

АДНОЙЧЫ ВЕЧАРАМ мне пазваніла інспектар абласнога інстытута ўдасканалення настаўнікаў з просьбай прыняць пачынаючых настаўнікаў замежнай мовы ў школе.

Спроба тактоўна адмовіцца не мела поспеху. Што ж прыдумаць? Як зрабіць, каб маладыя таварышы былі задаволеныя? Кабінета няма. Магнітафона няма. Вучэбнага комплексу для навучання вучняў французскай мове няма. Значыць, рэкамендацыямі аўтараў падручніка карыстацца нельга.

...Урокі закончаны. Маладыя настаўнікі падзякавалі і пайшлі. І хоць урокі ім спадабаліся (так сказалі яны мне перад адыходам), хоць мае ўрокі былі названы цікавымі і павучальнымі, мне радасці было мала. Наколькі больш насычана, наколькі больш цікава можна было правесці той жа ўрок, калі б у школе быў лінгафонны кабінет.

А дзе ўзяць вучэбныя комплексы, без якіх працаваць па новых падручніках вельмі складана?

Ды і самі падручнікі вельмі перагружаны. Здольным вучням нялёгка, а сярэднім і слабым проста немагчыма засвоіць прапануемы аўтарамі матэрыял за той час, які нам адведзены.

Дзве гадзіны на тыдзень вельмі мала, каб навучыць вучняў замежнай мове. Ды яшчэ калі даводзіцца працаваць без падручнікаў, як у 8-м класе.

Так што, няхай бабулі не папракаюць нас, настаўнікаў, што іх унукі пасля школы не ўмеюць гаварыць на замежнай мове. А Марыя Казіміраўна, кіраўнік педпрактыкі студэнтаў у школе, зразумее, калі прачытае гэту нататку, чаму я заўсёды супроць таго, каб да нас прыходзілі на педпрактыку студэнты.

У адсутнасці энергіі, энтузіязму, жадання працаваць як мага лепш, настаўнікаў замежнай мовы папракнуць нельга. Былі б толькі ўмовы для нармальнай работы.

**В. РУБАН,**
настаўніца школы № 10, г. Мінск.

**АД РЭДАКЦЫІ:**

**Дастаткова нават бегла азнаёміцца з пісьмамі настаўнікаў і адказам Міністэрства асветы, каб убачыць, як адрозніваюцца яны і па фактах, і, нават, па тоне. З аднаго боку, непакой настаўнікаў за становішча з выкладаннем замежнай мовы ў школе, непакой, які пранізвае і нарыс Г. Коканавай, і, з другога боку, суцэльны аптымізм, быццам у гэтай справе амаль усё ў парадку.**

**Ці апраўданы такі аптымізм! Давайце разбяромся. М. Дарафеенка піша: «У сувязі з пераходам на новы змест навучання... у школах былі ўведзены новыя вучэбныя дапаможнікі, якія складаюцца з падручніка, кнігі настаўніка, набору грамафонных пласцінак, дыяфільмаў, граматычных табліц, табліц-карцін і кніг для чытання».**

**А на справе! Мы пазванілі наўздагад у некалькі мінскіх школ. У дваццаць першай школе нам паведамілі, што тут ёць адзіны паламаны магнітафон,—дарэчы, у школе выкладаецца англійская і французская мовы— няма тут ні пласцінак, ні іншых дапаможнікаў.**

**Прыблізна тое самае ў 49-й, 57-й 78-й, 90-й школах.**

**— У школах горада,— гаворыць інспектар па замежных мовах Мінскага гарадскога аддзела народнай асветы. З. Паўлоўская,—амаль няма пласцінак з тэкстам, якія б адпавядалі сённяшняй праграме.**

**Гэта ў сталічных школах, якія ў рэспубліцы ў больш прывілеяваным становішчы. А як у іншых! Мы пазванілі ў некалькі абласных цэнтраў. У Гомелі з 40 гарадскіх школ толькі ў дзвюх ёсць лінгафонныя кабінеты, столькі ж іх у Віцебску. Дарэчы, кабінеты гэтыя існуюць ужо некалькі гадоў.**

**Між тым, у адказе Міністэрства асветы гаворыцца, што «з мэтай павышэння эфектыўнасці вучэбна-выхаваўчага працэсу шырэй выкарыстоўваюцца магчымасці забеспячэння школ гукатэхнічнымі сродкамі, прадугледжанымі пералікам тыповага абсталявання. Штогод павялічваецца колькасць школ, абсталяваных лінгафоннымі кабінетамі». Дзе ж тое «павелічэнне»!**

**На жаль, такія ж адказы і на іншыя пытанні, закранутыя ў нарысе, «Ду ю спік інгліш!».**

**Мы чакаем ад Міністэрства асветы грунтоўнага адказу. Справа, пра якую ішла гаворка на старонках газеты, вымагае сур'ёзнай размовы.**

# АМАРО, СЛУХАЙЦЕ, РАСІЯ СПЯВАЕ МАРСЕЛЬЕЗУ!

*Гэтыя радкі напісаў у жніўні 1917 года выдатны французскі паэт Гійём Апалінэр у прадчуванні вялікіх Кастрычніцкіх падзей.*

*Апалінэр сябраваў з людзьмі, якія цягнуліся да Расіі, любілі яе і бачылі ў Расіі ўвасабленне сваіх лепшых ідэалаў.*

*У будучым годзе ў выдавецтве «Беларусь» выйдзе кніга выбраных твораў Апалінэра «Зямны акіян» у перакладзе з французскай мовы Эдзі Агняцвет. Сёння мы прапануем увазе чытачоў урывак з будучай кнігі.*

*Нам асабліва прыемна адрасаваць пераклады твораў вялікага французскага паэта сваім чытачам у гэтыя дні, калі ў Францыі па запрашэнні прэзідэнта Французскай Рэспублікі Жоржа Пампіду і французскага ўрада знаходзіцца з афіцыйным візітам Генеральны сакратар ЦК КПСС, член Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Леанід Ільіч Брэжнеў. У часе ўрачыстай сустрэчы высокага савецкага госця, якая адбылася ў Елісейскім палацы ў Парыжы, Л. І. Брэжнеў адзначаў: «Прынята, і не без падстаў, гаварыць аб добрых традыцыях, якія ў ходзе гісторыі склаліся паміж нашымі краінамі і народамі,—аб традыцыях дружбы і ўзаемаразумення, абмену багаццямі культуры, баявога супрацоўніцтва ў цяжкія гады двух сусветных войнаў».*

*Сведчаннем гэтых традыцый у абмене здабыткамі культуры паміж народамі Францыі і Савецкага Саюза няхай будзе і гэтая наша публікацыя, а таксама расказ пра выступленне ў Мінску французскай піяністкі Франс Кліда.*

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

дачынення да навукі, аднак мае самыя непасрэдныя адносіны да сучаснай ідэалагічнай барацьбы на міжнароднай арэне. У агульным фронце праціўнікаў камунізма яны займаюць пэўны ўчастак. Атрымліваючы падачкі ад сваіх гаспадароў і цалкам ад іх залежачы, гэтыя пісакі ў адрозненне ад саветолагаў, якія спрабуюць захаваць акадэмічную прыстойнасць, паводзяць сябе найбольш заўзята і беспардонна. Уся іх творчасць падначалена галоўнай і незалежнай мэце — барацьбе з Савецкай Краінай. А тут, як кажуць, усе сродкі добрыя.

Нашы класавыя ворагі асабліва ахвочыя да вышуквання супярэчнасцей і негатыўных з'яў у савецкай рэчаіснасці, спрабуюць залезці ў кожную «шчыліну». Яны ўважліва сочаць за тым, што адбываецца ў ідэйным жыцці нашай рэспублікі, выступаюць з «рэцэнзіямі» і каментарыямі на новыя кнігі, артыкулы. Аб'ектам асаблівай увагі з'яўляюцца работы па гісторыі, асабліва, калі ў іх закранаецца нацыянальнае пытанне. Характэрны такі прыклад. Славутая радыёстанцыя «Свабода», якую фінансуюць Злучаныя Штаты Амерыкі, даведаўшыся, што рыхтуецца да друку двухтомная праца па гісторыі дзяржаўнага будаўніцтва ў Беларусі, выступіла ў гэтай сувязі са спецыяльнай перадачай. «Да гісторыі беларускай дзяржаўнасці». Радыёстанцыя перадала нават свае «пажаданні», чаго яна чакае ад беларускіх гісторыкаў у гэтай працы. Тут жа аўтар радыёперадачы не ўпусціў выпадку нагадаць слухачам аб сваім разуменні паходжання Савецкай улады ў Беларусі.

Барацьба думак у беларускай савецкай гістарычней навуцы неадкладна прыцягвае беларускіх буржуазных нацыяналістаў, якія спрабуюць знайсці сабе тут месца нейкіх «арбітраў».

Спасылкі на савецкіх аўтараў будуюцца на беспардоннай падтасоўцы крыніц. Як правіла, выхопліваюцца з кантэксту асобныя, да таго ж падпраўленыя, прэпараваныя палажэнні, вывады, факты і выдаюцца за нейкія агульныя з'явы. У свой час, ускрываючы падобныя метады буржуазных публіцыстаў і вучоных, У. І. Ленін пісаў: «У галіне з'яў грамадскіх няма прыёму больш распаўсюджанага і больш няслушнага, як выхапліванне асобных факцікаў, гульня ў прыклады».

Зразумела, фальсіфікатар змоўчыць аб тым, з якім энтузіязмам працоўныя Беларусі сустрэлі дэкрэты Кастрычніка аб уладзе, зямлі, міры, з якой нябачанай хуткасцю Беларусь пакрылася сеткай рэ-

Гійём АПАЛІНЭР

## ВАНДЭМ'ЕР

*З ПАЭМЫ*

Будучыя людзі, ўспамінайце мяне на зямлі!
Я жыў у эпоху, калі скончыліся каралі.
Паміралі яны ў маўклівай журбе,
Але веліч захоўвалі ўсё ж пры сабе.

Ты—дзівосны у верасні, горад Парыж!
Ты паміж вінаграднікаў ночы стаіш:
Вінаградзіны-зоры павіслі ўгары,
Іх нястомна дзяўбуць аж да самай зары
Ап'янелыя птушкі майго захаплення.

Я па цёмных завулках хадзіў у натхненні.
Я пачуў нечы голас, як вяртаўся дадому —
Ён спяваў, урачысты,
то сціхаў, невядомы,
Каб да Сены дайшло гэтай ноччу вячыстай
Рэха ўсіх галасоў — далёкіх і чыстых.

Песень Францыі прагну.
Прагну песень народаў —
Хай у глотку маю
яны льюцца заўсёды!
П'яны-п'яны Парыж я адчуў і убачыў—
Вінаград ён збіраў самы спелы і смачны.
І спявалі там звонка
Вінаградныя гронкі.

Рэн стары адгукнуўся,
плыў, як водгулле, Ван:
Слухай песні, Парыж,
нашых хат, грамадзян!
Тыя гронкі, што сонца калісь нарадзіла,
Мы гатовы прынесці ў ахвяру табе:
Мы нясём табе
розум, муры і магілы,
Непачуты табой крык дзяцей у калысках,
Мы прыносім табе
рэкі думак іскрыстых,
Мы працягваем рукі ў парыве бязмежным,
Быццам доўгія рукі спяваючых вежаў.

Розум гнуткі наш звязаны з іншым жыццём,
Ён хавае, як дзверы, сакрэт пад замком;
Мы прыносім табе таямніцы стагоддзяў:
Ты пачуеш не толькі аб любоўнай прыгодзе, —
Сэнс дваякі пачуеш фатальнай праявы,
Невядомы ні Ўсходу, ні Грэцыі нават, —
Сэнс Брэтані, дзе сілай дзевятага вала
Акіян кантыненты змывае памалу.

Поўнач гулам сваіх гарадоў адказала:

О, Парыж! Мы прыйшлі, мы—крыніцы жывыя, —
Гарады, дзе спяваюць, балбочуць святыя,
Металічныя ідалы фабрык святых;
Зацяжаралі хмары ад комінаў тых!

Нібы ўстаў над зямлёй Іксіён механічны,
Нашых рук, нашых пальцаў не злічыш, не злічыш!
Рукі чадных заводаў, майстэрняў фабрычных,
Як рабочыя голыя, нашы пальцы працуюць:
За капейкі
рэальнасць яны фабрыкуюць.

Гэта ўсё мы табе аддаём, Парыж!

І яшчэ адказалі тады
Гарады, гарады...

Толькі я ўжо адрозніць не мог галасоў —
Незнаёмых, аддаленых слоў.

І напеў старажытнага горада Трэва
Зліўся з іншым матывам і іншым напевам.

Свет вялікі змясціўся у гэтым віне.
Тут былі і жывёлы, і мора, і дрэвы,
Горы, зоры спявалі — здавалася мне;
Чуў
людзей на каленях на беразе неба,
Спеў жалеза,
што служыць нам добра, як трэба;
Быў агонь, без якога не маем натхнення;
Узнікалі нябожчыкаў гордыя цені,
І маланкі,
што думку маю нараджалі;
Кілаграмы паперы агнямі дрыжалі.

І збіраліся разам даты, назвы, імёны,
Там былі чарвякі несмяротныя —
Ім належыць штодзённа
Адшліфоўваць пасля нашы косці гаротныя.

Грозных армій змагаліся батальёны.
І былі там лясы:
што ні дрэва, то— крыж,
І была там — ці чуеш, Парыж!—
Хацінка мая ля берага мілых вачэй.
Гэта ўсё там было,
Гаманіла, жыло.

Апісаць не змагу я ніколі ў жыцці
Усяго, што тады мне ўявілася,
Усяго, што на свеце змянілася —
Распаліла празрыстым вінам
Няўтольную смагу Парыжа.

Прыгожыя дні. Жахлівыя сны.
Дзеянні. Вечная музыка руху.
Парасткі, што нараджаюцца з болем.
Светы, якія нагадваюць нас,
Я вас выпіў, а смагі сваёй не здаволіў.

Затое я зведаў смак сапраўдны сусвету.
Ап'янеў ад таго, што я выпіў сусвет
Сам, на беразе Сены,
Наглядаючы там, як хвалююцца хвалі,
Як дрэмлюць барліны.
Слухай, слухай мяне! Я—глотка Парыжа.
Буду піць я сусвет зноў і зноў.
Слухай песню маю
ап'янення сусвету!

...Вераснёвая ноч праплывала павольна.
Агні не свяцілі з мастоў, згаслі ў Сене.
Паміралі і зоркі.
Гэта—Дня нараджэнне.

Вандэм'ер — першы месяц (22—23 верасня — 21—22 кастрычніка) французскага рэспубліканскага календара, ад якога ў 1792 г. пайшло новае вылічэнне часу.

# «МАДАМ ЛІСТ» ЧАРУЕ МІНЧАН



На здымку (злева направа) — першая скрыпка Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра БССР, заслужаны артыст рэспублікі С. Асновіч, Франс Кліда і дырыжор Ул. Кін.

Фота Ул. КРУКА.

Сцэна Беларускай філармоніі даўно зрабілася своеасаблівым скрыжаваннем дарог музыкантаў свету. На гэты раз сустрэліся і музіцыравалі разам Франс Кліда — піяністка з Францыі, масноўскі дырыжор Уладзімір Кін і Дзяржаўны сімфанічны аркестр БССР.

Франс Кліда другі раз у Савецкім Саюзе. Харкаў, Адэса, Кіеў—гарады, дзе выступала ў 1969 годзе піяністка. З аркестрамі філармоніі, дырыжорамі Аліевым і Юсупавым яна іграла «Рапсодыю на тэму Паганіні» Сяргея Рахманінава. Ужо тады Ф. Кліда карысталася шырокай еўрапейскай вядомасцю. Ззаду былі перамогі ў міжнародных конкурсах, выступленні з лепшымі аркестрамі свету, аднадушнае прызнанне музычнай крытыкай высокага майстэрства выканання. Музыказнаўцы ставяць яе ў адзін рад з буйнейшымі піяністамі сучаснасці. Артыстка выступала ў Канадзе, Мексіцы, Англіі, ЗША, Польшчы, Чэхаславакіі, Венгрыі, Югаславіі... На гэты раз у СССР Франс Кліда дае канцэрты ў Літве, РСФСР, Беларусі і Эстоніі. З поспехам прайшлі яе выступленні ў Вільнюсе, Маскве і Мінску. Наперадзе—Ленінград і Талін.

У праграмах канцэртаў—камерныя творы Ліста, Брамса, Шапэна і Другі фартэпіянны канцэрт Сен-Санса. Ігра Франс Кліда вызначаецца цёплым задушэўным гукам, віртуознай тэхнікай, тонкай нюансіроўкай, па-жаночы эмацыянальнай перадачай музычных вобразаў.

Я сустрэўся з піяністкай за кулісамі. Абаяльная маладая парыжанка ахвотна згадзілася адказаць на некалькі пытанняў.

— Дзе вы вучыліся?

— У Парыжскай кансерваторыі, у выдатнага педагога і выканаўцы Лазара Леві, а таксама ў Элізабет Бруксель.

— Што вам даюць паездкі ў Савецкі Саюз?

— У першую чаргу, сустрэчы з чулай публікай, якая тонка адчувае мастацтва. Музыку тут любяць і добра разумеюць. Дастойна могуць ацаніць майстэрства выканаўцы—ваша краіна буйнейшы музычны цэнтр. Імёны савецкіх музыкантаў Гілельса, Когана, Растраповіча, Ойстраха, Рыхтэра і многіх іншых вядомы ўсяму свету. Для мяне канцэрты ў СССР—гэта аўтаматычнае павышэнне аўтарытэту на Захадзе, як і для любога іншага музыканта. Ацэнка майстэрства выканаўцы савецкай крытыкай неаспрэчная ва ўсім свеце.

— У Францыі вас нядаўна пачалі называць «мадам Ліст». Гэта да многага абавязвае.

— Цяпер я асабліва шмат сіл і часу аддаю рабоце над яго фартэпіяннай спадчынай. З фірмай гуказапісу «Дэка» заключаны кантракт на выпуск сямі альбомаў (28 грампласцінак) з запісам усіх сольных фартэпіянных твораў Ферэнца Ліста. Такая работа ў музычнай практыцы праводзіцца ўпершыню...

— Музыка якіх эпох і народаў найбольш вам блізкая?

— Я іграю творы кампазітараў усіх часоў. Важна, каб іх музыка была звязана з сэрцам народа.

— Вы былі ў складзе Камітэта таварыства дружбы «Францыя — СССР». Ці працягваеце вы займацца грамадскай дзейнасцю і ў чым бачыце мэту такой работы?

— Цяпер мне шмат даводзіцца працаваць у Таварыстве дружбы «Францыя — Венгрыя». Створаны камітэт па вывучэнні і прапагандзе творчасці венгерскага кампазітара Бэлы Бартака. Асноўная мэта—зблізіць народы, дапамагчы ім лепш пазнаць і зразумець адзін аднаго. Мая зброя — музыка. Яна блізкая і зразумелая ўсім. У Францыі зараз з візітам Леанід Брэжнеў. Шчыра спадзяёмся, што гэтая паездка паслужыць умацаванню сяброўскіх сувязей паміж нашымі дзяржавамі.

— Што вам асабліва запомнілася ў Беларусі?

— Незабыўнае ўражанне пакінуў мемарыяльны комплекс «Хатынь». Французскі гарадок Арадур спасціг такі самы лёс. Такое не павінна паўтарыцца!..

Франс Кліда адзначыла высокае майстэрства Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра БССР і чулы акампанемент дырыжора Уладзіміра Кіна. Дарэчы, гэта другі яго прыезд у Мінск. І першая і другая сустрэчы з беларускімі музыкантамі прынеслі яму творчую радасць. Выхаванец Ленінградскай кансерваторыі, Ул. Кін працаваў галоўным дырыжорам сімфанічнага аркестра ў Томску, а зараз ён мастацкі кіраўнік Маскоўскай філармоніі. Ён адзначыў перанасычанасць канцэртнага жыцця Мінска. На яго думку, няўдала складзены графік канцэртаў перашкаджае аншлагам у філарманічнай зале...

Слухачы канцэрта, аб якім ішла гаворка вышэй, цёпла прынялі салістку, дырыжора і аркестр.

В. ДАНІЛАЎ.

# ПА КАНВЕ ВЫДУМАНЫХ КАНФЛІКТАЎ

валюцыйных органаў улады — рэўкомаў і Саветаў, дзе кіравалі выхадцы з мясцовых рабочых і сялян. Не будзе сказана, як бясслаўна праваліліся ўсе спробы контррэвалюцыйных сіл пад сцягам барацьбы за «нацыянальную свабоду» звергнуць ўладу бальшавікоў. Будзе змоўчана таксама і аб адносінах беларускіх працоўных да прошукаў нацыяналістычнай контррэвалюцыі.

Праўда, сучасныя ідэолагі капіталізму не схільныя ўсё адмаўляць у савецкім ладзе жыцця. Прайшлі тыя часы! Нашы ворагі гатовы, напрыклад, пахваліць савецкія законы. Толькі, на іх думку, яны не праводзяцца ў жыццё. Пошукі разыходжанняў паміж словам і справай, «добрай» тэорыяй і «дрэннай» практыкай — вельмі характэрны прыём зарубежных буржуазных прапагандыстаў.

Па-свойму інтэрпрэтуючы працэсы, звязаныя з ліквідацыяй суб'ектывісцкіх напластаванняў і пашырэннем гістарычнай тэматыкі, «даследчыкі» з Мюнхена гатовы ўбачыць ва ўсім гэтым «адраджэнне нацыяналізму ў гісторыяграфіі БССР». Як кажуць, галоднай куме хлеб на ўме!

Цяжкасці, недахопы, асобныя памылкі ў правядзенні нацыянальнай палітыкі ў Беларусі ў паслякастрычніцкі час трактуецца ў Мюнхене, як разыходжанне тэорыі і практыкі. Вядома, што Абласны выканаўчы камітэт у Смаленску ў 1918 г. стаяў за захаванне Заходняй вобласці. Гэта думка прыпісваецца бальшавіцкай партыі ў цэлым. Замоўчваецца тое, што ЦК партыі на чале з У. І. Леніным вёў пастаянную і рашучую барацьбу супраць недаацэнкі нацыянальнага пытання, супраць ухілаў як у бок мясцовага нацыяналізму, так, асабліва, у бок шавінізму. Аб гэтым красамоўна гавораць матэрыялы, рашэнні VIII і іншых з'ездаў РКП(б). Працоўныя Беларусі глыбока ўдзячныя ЦК партыі, У. І. Леніну за клопаты, якія яны праявілі ў справе стварэння рэспублікі, у пераадоленні памылковых тэндэнцый.

### ПАД СІЛУ ТОЛЬКІ САЦЫЯЛІЗМУ

ТОЛЬКІ для сацыялізма аказалася магчымым вырашэнне аднаго з самых складаных пытанняў грамадскага жыцця — пытання нацыянальнага. Патрэбна была глыбока распрацаваная тэорыя нацыянальнага пытання, рашучае пераадоленне нацыяналізму і шавінізму, традыцый і прывычак старога грамадства, асцярожнае і ўважлівае стаўленне да нацыянальных інтарэсаў, ажыццяўленне роўнасці нацый на справе, каб згуртаваць народы ў адзіную братнюю сям'ю.

Факты з гісторыі ўтварэння беларускай дзяржаўнасці абвяргаюць выдумкі заходніх гісторыкаў і публіцыстаў аб нібыта няшчырасці нацыянальнай палітыкі Камуністычнай партыі. Толькі Савецкая ўлада дала магчымасць беларускаму народу ўтварыць сваю дзяржаву, стаць раўнапраўным са сваім старэйшым братам — вялікім рускім народам. Менавіта рускі народ дапамог беларусам стварыць рэспубліку.

Абвяшчэнне беларускай дзяржаўнасці заклікана было служыць умацаванню дыктатуры пралетарыяту ў Беларусі, развіццю эканомікі і культуры беларускага народа, далейшаму ўмацаванню саюза рабочых і сялян Беларусі з рускімі і іншымі працоўнымі, саюза, як пісаў У. І. Ленін, заснаванага «на поўным даверы, на ясным усведамленні братэрскага адзінства, на зусім добраахвотнай згодзе». Сам факт стварэння нацыянальнай дзяржаўнасці меў велізарнае ўздзеянне на розум і сэрцы рабочых і сялян Беларусі, спрыяў пераадоленню элементаў недаверу, падазронасці, крыўды, якія пакінуў эксплуататарскі лад у народнай свядомасці.

Стварэнне матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма — магутны фактар зближэння нацый, узмацнення ўзаемасувязі, узаемадапамогі і ўзаемазалежнасці нацый.

За мінулую пяцігодку аб'ём прамысловай вытворчасці ў Беларусі амаль падвоіўся. Павысілася ўдзельная вага рэспублікі ў агульнасаюзнай вытворчасці.

XXIV з'езд КПСС намеціў новыя рубяжы ў эканамічным, сацыяльным і культурным развіцці савецкага грамадства. Прынятыя з'ездам Дырэктывы па пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі СССР на 1971—1975 гады ўлічваюць і агульныя інтарэсы развіцця краіны ў цэлым і кожнай саюзнай рэспублікі паасобку. У новым пяцігоддзі паранейшаму больш паскоранымі тэмпамі будзе развівацца прамысловая вытворчасць Беларускай ССР. Калі ў сярэднім па Саюзе аб'ём прамысловай вытворчасці павялічыцца на 42—46 працэнтаў, то ў Беларусі яе рост складзе 53—56.

Выдатныя поспехі, дасягнутыя беларускім народам ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, сведчанне вялікай стваральнай сілы сацыялістычнага ладу, нацыянальнай палітыкі Камуністычнай партыі, савецкай федэрацыі.

У 1972 годзе наша шматнацыянальная Радзіма будзе адзначаць пяцідзесяцігоддзе стварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. З адлегласці, адмеранай часам, мы бачым велізарнае палітычнае значэнне ўтварэння адзінай саюзнай дзяржавы на ленінскіх прынцыпах раўнапраўя народаў, сацыялістычнага інтэрнацыяналізму, мы бачым маштабы і глыбіню яго сацыяльна-эканамічных вынікаў.

Адстойваючы заваёвы Кастрычніка, працоўныя розных нацыянальнасцей на чале з вялікім рускім народам закладвалі асновы міжнацыянальнага супрацоўніцтва. Разгром нацыяналістычнай контррэвалюцыі быў адной з неабходных умоў арганізацыі такога супрацоўніцтва.

У ходзе будаўніцтва сацыялізма ў рамках шматнацыянальнай савецкай дзяржавы была ліквідавана эканамічная і культурная няроўнасць, што засталася ў спадчыну ад старога ладу. А многія ўсходнія народы сталі працвітаючымі сацыялістычнымі нацыямі, мінуючы капіталістычны шлях развіцця. Поспехі ў сацыялістычным будаўніцтве, ліквідацыя эксплуататарскіх класаў, сацыяльныя пераўтварэнні ў вёсцы, культурная рэвалюцыя — карэнным чынам змянілі адносіны паміж класамі і нацыямі. Дружба народаў, народжаная сацыялізмам, стала магутнай рухаючай сілай грамадскага развіцця. Сацыялізм нарадзіў новае сацыяльнае супольства — савецкі народ.

Савецкая федэрацыя і формы савецкай нацыянальнай дзяржаўнасці заклікана служыць ажыццяўленню палітыкі збліжэння нацый і іх усебаковага развіцця і росквіту.

Вопыт нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва беларускага народа — яркае сведчанне жыватворчай стваральнай сілы ідэй пралетарскага інтэрнацыяналізму, дзейснасці прынцыпаў раўнапраўя і суверэнітэту, абвешчаных Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыяй.

